—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
6
ВЕРАСНЯ
1991 г.
№ 36 (3602)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—16 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ЧАС НОВЫХ ІДЭЙ

Юрась ЗАЛОСКА: «...Стварэнне нашага вобраза прыдасць моцы палітычнаму руху, які без забазавання на цэласнай, пераканаўчай і зразумелай нацыясофіі, відаць, не перасягне ўзроўню летуценняў аб незалежнасці. Пераходны перыяд ад таталітарнасці да — у нашым выпадку — этнасамасці працягваецца, і гэта час генерацыі новых ідэй».

СТАРОНКА 5.

## У ПОШУКАХ АЎТАРА

Пра яшчэ адну загадку літаратуразнаўства.

СТАРОНКІ 6—7.

## АГРЭСІЯ ФОРМЫ

Людміла КОРАНЬ: «Форма сама па сабе рэч вельмі прадуктыўная, агрэсіўная нават... Здаецца, надышоў час заўважыць гэткія ж патэнцыі і тых формаў, якія (зноў жа нам толькі) бачацца як новыя, як тыя, што рашуча выведуць за ручку новую нашу прозу на еўрапейскую элітарную арэну».

СТАРОНКІ 10—11.

## «І ЗА ПРЫРОДУ, І ЗА МУЗЫКУ БАЛЮЧА...»

Лісты з Палесся,

СТАРОНКІ 10—11.

## РЭЛІГІЯ І МОВА

Артыкул восьмы: Беларускай мове — статус літургічнай.

СТАРОНКІ 13—15.



РАКУЦЁЎШЧЫНА, 1 ВЕРАСНЯ.
Пра багдановічаўскае літаратурна - мастацкае свята, якое адбылося тут гэтым днём — на стар. 4.

# «ГЛЯДЗІ, БЕЛАРУС, У СТРОГІЯ ЧЫСТЫЯ ВОЧЫ МАКСІМА»



Гасцей вітае артыстка Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы Зоя БЕЛАХВОСЦІК.

Сёлета са стогадовым юбілеем Максіма Багдановіча супала і яшчэ адна значная дата. Роўна 80 гадоў назад, улетку 1911 года, хворы на сухоты дзевятнаццацігадовы паэт упершыню, пасля доўгай ростані сустрэўся з Бацькаўшчынай. Ажыццявіць даўнюю мару дапамаглі яму супрацоўнікі газеты «Наша Ніва» браты Антон і Іван Луцкевічы—яны прапанавалі Максіму пагасцяваць у іх дзядзькі Вацлава Лычкоўскага. Пра гэтую паездку паэта ў свой час згадваў у «Гісторыі беларускай літаратуры» М. Гарэцкі, пісаў пра яе і бацька М. Багдановіча Адам Ягоравіч. Але, на жаль, яны дакладна не ўказвалі, дзе адпачываў паэт. Толькі гадоў 20 назад гэта ўдалося высветліць Г. Каханоўскаму. Так з'явілася на літаратурнай карце рэспублікі невялікая вёска Ракуцёўшчына, колішні фальварак, што знаходзіўся паміж Мінскам і Маладэчнам.

З 1983 года ў Ракуцёўшчыне штогод праходзяць паэтычныя святы, якія ладзіць Літаратурны музей М. Багдановіча. А захады па ўвекавечанні знаходжання Максіма ў тутэйшых мясцінах былі зроблены яшчэ раней. У 1977 годзе ля дарогі на Чысць з'явіўся унікальны помнік — два валуны, на адным з якіх прымацавана мемарыяльная дошка, што паведамляе аб знакамітым наведванні Максімам Бацькаўшчыны, і змешчаны яго неўміручыя радкі: «Хоць зернейкі засохшымі былі, усё ж такі жыццёвая ў іх сіла збудзілася і буйна ўскаласіла парой вясенняй збожжа на раллі». А ў 1981 годзе пісьменнікі, краязнаўцы Маладзечаншчыны пасадзілі ў Ракуцёўшчыне мемарыяльны «Максімаў Сад» — 70 дрэў.

І вось чарговыя ўрачыстасці — музычна-паэтычнае свята з нагоды Максімавага 100-годдзя. Аднак адметнасць яго і ў іншым — гэта першае рэспубліканскае свята паэзіі ў незалежнай Беларусі. М. Багдановіч, пясняр і творца, грамадзянін і вялікі сын Бацькаўшчыны, канстатуючы цяжкае, паднявольнае жыццё беларускага народа, пазбаўленага права на нацыянальнае самавызначэнне, здолеў глянуць і далёка наперад. Ён прадугадваў прыход сапраўднай волі: «Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня...» Але ведаў і разумеў: яшчэ доўга абяцанкі аб сацыяльнай і нацыянальнай роўнасці будуць заставацца абяцанкамі.

**Народ, Беларускі Народ!**
**Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.**
**Табою ўсягды пагарджалі,**
**Цябе не пушчалі з ярма**
**І душу тваю абакралі, —**
**У ёй нават мовы няма.**

Гучыць беларуская мова ў Ракуцёўшчыне. І не толькі з вуснаў шматлікіх пісьменнікаў, якія прыехалі на свята. Свая, родная, нерушавая мова чутна і з вуснаў маладэчанцаў. Панаску размаўляюць хлопцы і дзяўчаты — і прыехаўшыя са сталіцы і Маладэчна, і прыйшоўшыя з Краснага, Ракуцёўшчыны, навакольных вёсак. Адчуваецца, што добра ведаюць жыццёвы і творчы шлях М. Багдановіча, бо якраз кіруюцца да тых куточкаў, дзе ступала колісь Максімава нага.

У Ракуцёўшчыне ж многае і многае нагадвае пра Максіма, пра тое, як у далёкае памятлівае лета ён гасцяваў разам з роднай сястрой Луцкевічаў Эміліяй Шабуняй і яе двухгадовай дачкой Янінай. Нагадаем, што Яніна Аляксандраўна Шабуня-Каханоўская па сённяшні дзень жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі, а яе ўнукам з'яўляецца вядомы спявак Данчык (Багдан Андрусішын). Аб ракуцёўшчынскім перыядзе ў жыцці М. Багдановіча і Я. Шабуня-Каханоўская, і ў свой час В. Ластоўскі пакінулі ўспаміны.

Хата, у якой жылі Лычкоўскія, недзе ў пяцідзесятыя гады была перароблена цяперашнім гаспадаром Уладзімірам Грышалём, але будынак мае гістарычна-літаратурную каштоўнасць. У ім, як і ў аднаўленым дамку, дзе жыў М. Багдановіч, будзе створаны музей. Пакуль што тут разгорнута перасоўная экспазіцыя. Для У. Грышаля будуецца новая хата.

Захавалася крынічка, ля якой любіў бываць паэт. З той часіны шумяць і тры разгалістыя клёны. І, вядома ж, напамінкам аб днях, якія многае перавярнулі ў душы М. Багдановіча, сталі штуршком, што павёў яго далей па шляху нацыянальнага Адраджэння, — цыклы вершаў «Места» і «Старая Беларусь», паэма «Вераніка», іншыя творы, што пісаліся менавіта тут, у Ракуцёўшчыне.

Верш «У вёсцы» — таксама «ракуцёўшчынскі»:

**Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця!**
**Зноў з ціхай радасцю цябе чытаю я,**
**Хай шмат чаго (ўжо) з тых гадоў крыніца змыла**
**У памяці маёй...**

«З ціхай радасцю» ад сустрэчы з цудоўнымі мясцінамі, з гонарам, што нарэшце дачакаліся ўсе мы сапраўднай незалежнасці Беларусі, але адначасна і з трывогай ад таго, што яшчэ шмат няпэўнасці ў жыцці, на шляху нацыянальнага Адраджэння засталося шмат камення, — з гэтымі пачуццямі «перагортвалі» старонкі паэтавай біяграфіі, лёсу нашага народа ўдзельнікі свята. Да сэрцаў людскіх прамаўлялі міністр культуры Беларусі Я. Вайтовіч, старшыня рады Саюза пісьменнікаў рэспублікі В. Зуёнак, П. Макаль, С. Грахоўскі, У. Лучук (Львоў), старшыня праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў, Н. Мацяш, М. Аўрамчык, В. Іпатава, А. Вярцінскі, С. Законнікаў, А. Лойка, Л. Рублеўская, В. Шніп, Я. Міклашэўскі, А. Мальдзіс, В. Жуковіч, А. Пісьмянкоў, Г. Каханоўскі, П. Бітэль, Л. Луцкевіч, У. Паўлаў...

І яшчэ адной важнай думкай былі прасякнуты ці не ўсе выступленні на свяце. Толькі ў нацыянальнай згодзе мы можам садзейнічаць росквіту Беларусі як моцнай суверэннай дзяржавы. Пра гэта ж, толькі ў іншай форме, казаў і М. Багдановіч:

**Хто мы такія?**
**Толькі падарожныя, — папутнікі сярод нябёс**
**Нашто ж на зямлі**
**Сваркі і звадкі, боль і горыч,**
**Калі ўсе мы разам ляцім**
**Да зор?**

Ён наш сучаснік, М. Багдановіч. Ён дапамагае нам ачышчацца ад усяго наноснага, бруднага і выпадковага, далучацца да духоўнасці, вечнасці. Менавіта гэта прагучала ў вершы С. Законнікава «Вочы Максіма», напісаным, як прызнаўся паэт, за дзень да свята:

**Глядзі, беларус, каб не згінуць, глядзі**
**У строгія чыстыя вочы Максіма.**

Крок да ачышчэння быў зроблены — аднаўлены і асвечаны крыж, ля якога бываў М. Багдановіч, у царкве адбыўся малебен.

**Уладзімір КРУК** (фота),
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
спецыяльныя карэспандэнты «ЛіМа».



Свята паэзіі вядзе В. ЗУЕНАК.



Кніжная лаўка.

ПАМЯРКУЕМ

# Так, Айчына была ў небяспецы...

Заяву «савецкага кіраўніцтва» я слухала ў цягніку, пад'язджаючы да сталіцы Латвіі. «Па стану здароўя... У мэтах аднаўлення законнасці і правапарадку... В. а. прэзідэнта СССР Г. Янаеў...» Свядомасць успрымаць пачутае не хацела. Недаўменне, прыкрасць, уражанне нейкага злога розыгрышу. Чаканне, што вось-вось усё высветліцца і зменіцца. Чакаць давялося нядоўга — тры дні. Але ў аддаленні ад дома, што звычайна абвастрае трывогу і прыгнечанасць.

У адрозненне ад сродкаў масавай інфармацыі насельнікі Дома творчасці імя Райніса карысталіся лексікай, больш адэкватнай падзеям: паўсюль гучала слова «пераварот». У панядзелак к вечару перапынілася сувязь з Масквой і іншымі гарадамі, перастала ісці латвійская незалежная праграма тэлебачання. У аўторак пісьменнікі ўжо збіралі грошы на дапамогу сям'і забітага вайскоўцамі ў Рызе мясцовага шафёра, які не туды заехаў на сваім «рафіку». Вечарам суседка па сталоўцы зларадна аб'явіла, што латышы «присмирели» і нават крэм «Дзінтарс» давалі без візітак.

У тыя дні вялізная чарга выстраілася да чыгуначнай касы: курортнікі здавалі білеты на канец месяца і бралі на бліжэйшыя дні. Чарга чамусьці напалову склалася з беларусаў. «Мы панікёры, — спакойна казала суразмоўніца. — Баімся, што пазней не даедзем».

Калі праграма «Время» (так яе называюць на расійскім ТВ) перадала пра нечаканую хваробу Паўлава, у фае загучалі апладысменты. Менавіта з гэтага моманту падзея, што задумвалася як драма, пачынала ўспрымацца як звычайны фарс. У дзяржаўных мужоў, што назаўтра пасмялелі і з'явіліся на экране, — мяшкі пад вачыма і выгляд напракудзіўшых катоў. Рэплікі тэлегледачоў: а дзе ж вы былі раней? Алексій II абвясціў загаворшчыкам анафему. Каментарый: пазнавата... Хтосьці пытаецца: а чаму ж маўчала тая, што пра народ дбае «дзённа і нощна»? Усе з палёгкай смяюцца. Ці не так было перад кожным экранам?

Пры ўсіх стратах, пры ўсіх выдатках, маральных і матэрыяльных, будзе ў пераварота адна несумненная карысць: яскрава відавочна праявілася за гэтыя дні заганнасць кадравай палітыкі ў вышэйшых эшалонах улады. Во каго, аказваецца, узвышалі, надзялялі паўнамоцтвамі, во з кім збіраліся латаць страху і мяняць падрубы савецкага дома!

Яшчэ ў годзе 1987-м мой калега гаварыў, помніцца, пра агонію сістэмы. Праз колькі часу я пасмяялася яму: не збываецца тваё прароцтва, штосьці агонія зацягнулася. На што ён толькі красамоўна развёў рукамі. Хто мог думаць, што гэта змрочна-зацяты кандыдат у нябожчыкі, гэты Зомбі, пазбаўлены душы, але не здольнасці рухацца, раптам актывізуецца ды возьмецца за зброю! Толькі інтэлектуальная нямогласць магла штурхнуць васьмёрку няўдалых піначэтаў на бяспрыкладную авантуру — зноў паставіць на калені народ, які паспеў зведаць перавагу прамой, чалавечай паставы.

Пра разумовую непаўнавартасць былі падставы думаць і тады, калі верныя адэпты сталіншчыны распачыналі спрэчкі пра ідэалы і прынцыпы. Бо іхнія ідэалы не ўвасоблены ў жыццё, а з-за «прынцыпаў» тырчаць нярэдка вушы эгаістычнага разліку або шкурнага інтарэсу.

...Але што робяць з людзьмі высокія пасады! Нашы чыноўнікі, слаўныя гадаванцы КПСС, — як тыя электрычкі, дзе будкі машыніста і спераду і ззаду. У выпадку чаго няма патрэбы разварочвацца: шуруй у процілеглым накірунку з той жа хуткасцю.

Некалькі такіх «машыністаў» Ельцын сваёй уладай паспеў змясціць. Прэзідэнт РСФСР, трэба прызнаць, за тры ўсяго дні зрабіў столькі, колькі Прэзідэнт СССР — за тры гады. З чаго раблю вывад, што не так па моцнай руцэ засумавалі грамадзяне, як па ўчынках, па здольнасці дзейнічаць, прымаць маланкавыя — і правільныя — рашэнні.

«Над нашай вялікай Радзімай навісла смяротная небяспека»... Пра смяротную небяспеку мы ўжо аднойчы чулі... Але дзе? Успомніла! Пра тое ж гаварыў на адным з апошніх пленумаў ЦК КПСС тав. Малафееў! Значыць, ужо тады вялася падрыхтоўчая работа, распаўсюджваліся пісьмовыя (ці вусныя?) фармулёўкі, вербаваліся прыхільнікі. Што **яны** перажылі за тры гістарычныя дні, пра тое можна толькі здагадвацца...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

Дубулты. 21 жніўня 1991 года.

**Р. S. Гэты матэрыял ішоў з Латвіі амаль два тыдні: таксама вынік перавароту ці проста нехлямяжасць пошты?**

**І яшчэ адна падзея, пра якую варта сказаць: неўзабаве пасля бурных падзей і абвяшчэння незалежнасці Латвіі ў Дубултах дэманціравалі помнік Леніну. Прысутнічала прэса. Калі ад правадыра засталіся толькі ногі (яго адвозілі па частках), загучалі апладысменты.**

**Г. К.**

# АГРЭСІЯ ФОРМЫ

## Стылёвыя пошукі маладой прозы

**Людміла КОРАНЬ**

АДЗІН з накірункаў развіцця маладой беларускай прозы — так званы еўрапеізм. Не будзем тут чапаць філасофію, гэтым разам будзем мець на ўвазе толькі тое, што частка нашых маладых празаікаў, мяркуючы па шматлікіх публікацыях у перыёдыцы і па першых-другіх кніжках аўтараў другой паловы 80—90-х гадоў, відавочна намерылася беларусізаваць тыя з вядомых у свеце жанрава-стылёвых формаў, якіх для апошняга часу амаль не ведала наша прыгожае пісьменства.

Гэты рух, як і ўсякі новы ды энергічны, не можа не радаваць. З'явілася больш прозы, якую цікава чытаць, выйшла на публіку шмат маладзёнаў — дэтэктываў і прыпавесцей, фантастыкі і перыфразаў розных гістарычных часоў. З'явіліся аўтары, за якімі нецярпліва сочыш, чыіх твораў чакаеш: Андрэй Федарэнка, Алесь Наварыч, Пятро Васючэнка, часам залішне камерцыйны Адам Глобус, Анатоль Казлоў — няроўны, але ў лепшых творах арыгінальны, іншыя (Алесь Астраўцоў, напрыклад, адразу запомніўся публікацыяй у № 2 «Маладосці» за 1991 г.) — таленавітай моладзі цяпер многа.

Новая, цікавая плынь дэманструе, аднак, і звычайную нашу шэрасць, знакаміты «вал», які сёння гэткі ж заўважны, як і ўчора, і заўчора. Розніца толькі ў тым, што тут шэрасць абвеяна нейкім місіянерскім пафасам або флёрам вучнёўства, і вось ужо сам крытык, бадай, сумеўся: імкненне вучыць і навучацца — катэгорыя станоўчага асацыятыўнага поля, а шэрасць — гэта ўжо нешта яўна адмоўнае, дык ці правамернае спалучэнне?

Пачнём з формы. Форма сама па сабе рэч вельмі прадуктыўная, агрэсіўная нават. Агрэсію традыцыйных (для нас) формаў мы, дзякуй Богу, заўважылі. Ды, здаецца, надышоў час заўважыць гэткія ж патэнцыі і тых формаў, якія (зноў жа нам толькі) бачацца як новыя, як тыя, што рашуча выведуць за ручку новую нашу прозу на еўрапейскую элітарную арэну.

Сапраўды, пачніце выпрацоўваць інерцыйны запас экзатычнай формы, перакіньце яе ў новае, незасвоенае дасюль ёю моўнае рэчышча,— і яна дасць свой плён. Адшліфуе мову, нарасціць мускулы жанравым структурам, падключыць змест вашых твораў да архетыповых кантэкстаў. Усё гэта — калі вы, па меншай меры, вельмі здольны чалавек, як, напрыклад, Алег Мінкін.

Пасля несумненнага поспеху прыпавесці «Краіна Хлудаў» (напісана разам з Віктарам Галковым, зб. «Тутэйшыя», 1989 г.), А. Мінкін надрукаваў апавяданне «Карова» («Маладосць, 1990 г., № 10). Гэтае апавяданне можна параўнаць з таленавітым перакладам: гэта больш Дж. Оруэл ці які У Голдзінг, чым А. Мінкін; аднак моўная пластыка, энергія беларускай мовы робяць гэтае апавяданне таленавітай, самакаштоўнай варыяцый на класічную тэму. Па сутнасці, гэтая напісаная ў анталагічным жанры проза накшталт «Персідскіх матываў» Ясеніна або анакрэонтыкі Пушкіна ў паэзіі. Увогуле анталагічнае майстэрства вельмі блізкае перакладчыцкаму і, вядома, які выдатны перакладчык, тонкі стыліст А. Мінкін.

Ды ўсё ж талент імітатара ці, калі хочаце, кампазітара дастаткова рэдкі. На фоне класікі імітатарскі плён бывае надта сціплым, каб весці гаворку пра нейкі мастацкі прагрэс, пра ўласнае наватарства многіх нашых маладых аўтараў. Проза, якая часцей сустракаецца ў друку, нагадвае філалагічныя семінарскія практыкаванні: відаць, што чалавек, скажам, навучыўся пісаць пад бітнікаў ці Эдгара По; давёў, што ўжо сказанае раней, іншымі, на іншых мовах можна сказаць і па-беларуску. Лагічны вынік такога вучнёўства (здараецца нават у безумоўных талентаў) — парадыйнае гучанне пераймальных практыкаванняў. Напрыклад, вар'яты і вар'яткі з аднаго толькі зборніка прозы маладых «Перад маімі вачыма» (1990 г.): «Багадзельня» Сяргея Астраўцова з п'есаю «кагосьці з элінаў»; «Выспа» Ігара Бабкова са «старахінскімі штудыямі», з «Сістэмаю» ды з «Інсулінным паветрам»; больш просценькае «Хачу быць блазнам» Віты Раманенкі з «вар'яцкім днём» і «звар'яцелаю» гераіняю; «Візіт алігафрэна» Юр'я Станкевіча,— рызыкну дыягназаваць Мілаша Формана (таму што наглядна) у якасці першаштуршка ды раскручвання старажытнай філасофскай тэмы і не менш старажытнай мастацкай метафары. Прасталінейна транслітэраваць яе сёння на поўным сур'ёзе проста смешна.

«Новая» форма здольная заглынуць практыканта гэтак жа лёгка і хутка, як і «старая». Новая форма сама па сабе можа нарадзіць толькі безліч новых сваіх лёгка прагназуемых камбінацый, безліч вучнёўскіх опусаў. Агаворымся яшчэ раз, што штудыі маюць сваю вартасць, проста не трэба блытаць нашае банальнае вучнёўства з наватарствам. Важна ў часы згаладалага заглынання і неравараўвання чужых раскошаў адчуваць меру, не прамінуць тую хвіліну, калі трэба спыніцца і зразумець: неабдымнае не абдымеш, усяго не з'ясі, не спажывеш. Мастак — гэта дэміург. Гэта Моцарт, які творыць свой свет. Яго псіхафізіка рухае форму, а не наадварот. Чытачу цікавы гаспадар формы, а не яе экспансія сама па сабе.

Аўтаномія, вялікая сіла супраціўлення мастацкага зместу чужацкаму гвалту заключаецца і ў яе канкрэтна-гістарычнай прыродзе формы. Згадайма французскі «новы раман»: ён нарадзіўся скандалам і з'яваю свайго часу. У нас цяпер гэта было б чыстае і зусім наіўнае малпаванне. Сезам адчыняецца інакш...

Да прыкладу, вазьміце нізку эратычных абразкоў А. Глобуса з першага зборніка маладых «Літаратура». Яны арыгінальныя не таму, што А. Глобус адкрыў Амерыку, «засвоіў» для беларускай традыцыі форму Дэкамерона ці іншыя каноны гэтага архетыпу Заходняга (XIV ст.) або Усходняга (X—XI стст.) Адраджэння. Абразкі А. Глобуса арыгінальныя таму, што ён адкрыў нашу рэчаіснасць, герояў нашага застойнага і постзастойнага часу, і мы ацэньваем тут перш за ўсё не здольнасць Глобуса пераварыць экзотыку, а яго здольнасць сказаць нешта сутнаснае пра сябе, нас, пра наш час. Фармальныя асацыяцыі тут якраз маглі б «задавіць», маглі б закасаваць папярэднікі (што, між іншым, часта здараецца з В. Чаропкам, калі ён дражніць антыкаў ды іншых заканадаўцаў «нянашых» формаў). А. Глобус дастаткова самастойны: архетып у яго — толькі кантэкст або падтэкст, усё ж астатняе — уласнае, і ў гэтым справа. Вучнёўская проза з натхненнем неафіта можа беларусізаваць што заўгодна. Аднак яна будзе распадацца на плоскія фармальныя камбінацыі, будзе мець нязводны прысмак другаснасці аж да таго часу, пакуль экзотыка не дападзе да глыбіняў тутэйшага ўлоння і не народзіцца дзіця тутэйшай формастваральнай глебы. Толькі асоба аўтара, канкрэтная этнічна і сацыяльна-псіхалагічна, здольная згарманізаваць хаос, «новы» ён ці «стары».

Той жа А. Наварыч у фантастычным апавяданні «Вяртанне сыноў» (зб. «Тутэйшыя») застаецца перш за ўсё традыцыяналістам-Наварычам, гэта значыць традыцыйна ўжо добрым пісьменнікам. Наватарства Наварыча тут зусім не ў тым, што ў апавяданні дзейнічаюць камп'югомы. А ў тым жа, у чым яно было і раней у кнігах «Рабкова ноч» і «Ноч пацалункаў незалежнасці»: ва ўменні стварыць свой, унікальны і таму новы ў літаратуры мастацкі свет, ва ўменні фантастыку (як раней традыцыйную паэтыку) зрабіць сваім выяўленчым сродкам, сваёй служкай, а не самому абслугоўваць фантастычныя штампы. Быў, праўда, у пісьменніка ранні твор «Скрыжаванне» («Жнівеньскі праспект», 1988 г.), дзе А. Наварыч паспрабаваў адмовіцца ад сваёй улюбёнай манеры традыцыйнага прамога апавядання на карысць вульгарнай псіхалагізацыі «пад Фолкнера»,— чыстае, што называецца, фіяска.

Цяжэй даюцца штудыі тым, каму бракуе «беларускасці», каб «беларусізаваць», «наскасці», каб чужое зрабіць нашым, урэшце проста мастакоўскай асобы, каб агульнавядомае зрабіць асабістым. Загляньце ў апавяданне Стаха Дзедзіча «Кантрольны вузел» («Беларусь», 1991 г., № 4). Стах Дзедзіч, канешне, не самы горшы пісьменнік, і нават у гэтым апавяданні бачны яго творчы патэнцыял, але надта ўжо апавяданне няўдалае. Тут вам і галоўны герой К. (чаму не Йозеф К.?); і малаапетытныя макароны на сняданак, таемна звязаныя з «каляровымі плямамі бензіну» на свіслацкай вадзе; і «жэшкая задушлівасць» мройных тропікаў; і альпінізм героя як сведчанне ягонай мадэрновасці; і К'еркегор; і побытавае хамства, і ўрэшце суіцыд, прасцей — самазабойства героя. Словам, поўны джэнтльменцкі набор сучаснага «празаіка-наватара», прысмакам добрай пароды на розныя -ізмы ды пост-ізмы.

Паказальная ілюстрацыя Анатоля Александровіча да гэтага апавядання С. Дзедзіча — нейкі лысы тыпус паводле караля Стаха на кані на фоне гор: ці то сам герой К. як няўдалы «адраджэнец», ці відазменены персанаж С. Дзедзіча — вершнік «у махнатым капюры», як, бачыў бясконцыя прасторы, дзе шлях вымяраецца тысячагоддзямі гісторыі, дзе ў дарозе скуты ланцугом мінуўшчына і цяперашняе...», і г. д. Між іншым, змешчанае тут жа апавяданне А. Федарэнкі «Сіндром» — пра тое, як савецкага чалавека «сажрала» перабудова — А. Александровіч невядома чаму праілюстраваў голай дзеўкай, тады як менавіта ў творы С. Дзедзіча герой К. прачынаецца ў час падарожжа ў цягніку з наступнай прычыны: «па спацелай руцэ пацякло нешта цёплае і ліпкае», відаць, у непасрэднай сувязі з тым, што над героем, «на трэцяй паліцы нешта стагнала і варушылася», а «з суседняга купэ бялела ў цемры жаночая нага, якая то згіналася, то разгіналася ў такт рыпенню» і г. д.

Дзеля чаго мой сарказм? Я за вучнёўства, але калі яно не прэтэндуе быць больш, чым ёсць, быць наватарствам, мастацтвам без сапраўды мастакоўскага, дэміургічнага высілку. Менш наіўных філалагічных практыкаванняў! Мастацтва заўсёды унікальнае, яно не робіцца праз голы, паслядоўна праведзены прыём, і адна філалагічная вывучка не мае ўласцівасці нешта новае спарадзіць. Як вядома, яна многім нават замінае. Так, напрыклад, мне здаецца, што Уладзімір Сцяпан больш арыгінальны філолаг, можа быць, паэт, тэлежурналіст, чым арыгінальны празаік.

Проста сённяшнім часам мы назіраем ужо вядомую, аналагічную 20-ым гадам хвалю актыўнай цікавасці да «не-свайго», і на гэтай хвалі гатовыя захапляцца «чужым пазаддзем» (выраз М. Зарэцкага), абы яно было нязвыклае, тым больш з ліку амаль забароненага ўчора.

І ўсё ж да тэарэтызавання, абстрактных закідаў убок маладых не лішне далучыць аналіз хоць бы адной з'явы з разраду тых, пра якія ідзе гаворка. У якасці такога рэпрэзента маладой «нетрадыцыйнай» прозы возьмем творчасць А. Федарэнкі.

Ужо дэбют А. Федарэнкі (маецца на ўвазе «Сачыненне», «Маладосць», 1987 г., № 1) выявіў стылёвую пэўнасць празаіка. І тут трэба звярнуць увагу на тую паблажлівую іранічнасць, з якою А. Сідарэвіч,

# У ПОШУКАХ АЎТАРА

## Яшчэ адна загадка літаратуразнаўства

Не так даўно, пераглядаючы беларускую перыёдыку ў бібліятэцы імя Васіля Стафаніка ў Львове, звярнуў увагу на першы нумар заходнебеларускага выдання «Беларуская культура» за 1927 год. Пасля азнаямлення з яго зместам стала відавочна, што асобныя старонкі зацікавяць літаратуразнаўцаў. Размова, у прыватнасці, ідзе пра верш «За ўсе краі, за ўсе народы сьвету...», змешчаны ў матэрыяле «Ненадрукаваны ў Менску верш».

Публікацыя пачынаецца з невялікага каментару, які цалкам і прапануем чытачу:

«Ніжэй падаем верш невядомага паэта, прысланы нам з Менску, верш надзвычайнай дынамікі. У Менску ён ня мог быць выдрукаваны, бо востра выступае проціў бальшавікоў, крытыкуючы іх акупантскую палітыку. Не прыдворная, казённая савецкая паэзія,—а гэты верш адбівае праўдзівыя настроі і думкі беларускага народу, у нетрах якога накіпаець пратэст проціў камісарскіх гвалтаў. Грамадзкае значэньне верша сягоньня трудна яшчэ ацаніць:—так далёка ў будучыню сягаець думка і імкненьне паэта. Рэдакцыя».

Далей ідзе сам верш з апушчанай дзевятай страфой. Логіка тэксту падказвае, што ў прапушчаных паэтычных радках аўтар рэзка выступаў супраць палітыкі панскай Варшавы ў дачыненні да беларускага народа. І з гэтай прычыны страфа была знята цэнзарам ці супрацоўнікамі рэдакцыі.

Нават пры першым знаёмстве з творам міжволі згадваецца Янка Купала, яго вобраз Маці-Беларусі — «Німбы ўсіх народаў». Той жа трагічна-высокі матыў, тая ж напятасць і дынаміка вершаванага радка. Безумоўна, пакуль што рана катэгарычна заяўляць, што невядомы паэт—менавіта Янка Купала. Выслухаем думку літаратуразнаўцаў. Аднак ужо цяпер ёсць пэўныя, няхай сабе і ўскосныя аргументы, якія даюць падставы меркаваць пра аўтарства верша. На жаль, іх не так багата, як хацелася б. Пачнём з галоўнага. А дакладней, з таго фактычнага матэрыялу, які маецца ў наяўнасці.

Тыпалагічна, паводле метрычнай пабудовы і сэнсавай танальнасці твор з'яўляецца лагічным працягам верша Янкі Купалы «Свайму народу». Але ёсць тут і свой контраргумент. А што, калі верш—толькі стылізацыя пад Купалу, падробка? Ну, што ж, тут ёсць нейкая логіка. Але, думаецца, ці не занадта гэта таленавітая падробка... Зрэшты, не будзем спрачацца наконт гэтага і пачакаем рашаючага слова тэкстолагаў і купалазнаўцаў. А са свайго боку паспрабуем разгледзець твор у канкрэтна-гістарычным ракурсе мастацкай творчасці паэта.

1926 год. Пятыя ўгодкі драпежнага Рыжскага пагаднення. Пагранічная мяжа парэзала Беларусь на часткі і на доўгія гады, як пісаў Купала, стала «рубяжом крывавай славы» паміж Усходам і Захадам. Як жа рэагаваў паэт на ўмовы Рыжскага пагаднення? Адказ адназначны. Ён рашуча пратэстваў супраць палітычнай і эканамічнай экспансіі Масквы і Варшавы. І, думаецца, сёння ўжо недарэчна па-ранейшаму бачыць у адносінах Янкі Купалы да Рыжскага пагаднення 1921 года «гістарычную абмежаванасць, суб'ектыўнасць пазіцыі народнага паэта» (В. Рагойша. Вяршыні. Мн., 1991). Гісторыя і паэт-летапісец ведалі тых, хто з Захаду і з Усходу «круціў нам сцежкі Да жыцця і славы». Да ўсіх іх звяртаўся Янка Купала са словамі страшнага закляцця-праклёну:

**Каб таго парвала**
**З сэрцам на тры часці**
**І звяр'ё збрылося**
**Мяса перакрасці,—**
**Хто быў прычыніўся**
**Нашаму падзелу,**
**На кускі парваўшы**
**Маці роднай цела.**

**(«Каб...», 1926)**

Паэта глыбока трывожыў лёс народа. Ці сабе беларус «сее свой палетак»? Чаго спадзявацца, калі на пагранічы «Па той і гэты бок назгонна // Стаяць варожыя дзве сілы»? Варта заўважыць, што азначэнне «варожыя» ў Купалы не столькі характарызуе процістаянне дзвюх дзяржаў, колькі выражае адносіны паэта да тых сіл, якія стагоддзямі «назгонна» ператваралі Беларусь у сваю вотчыну. І гэты ж матыў у вершы «За ўсе краі, за ўсе народы сьвету...».

У чэрвені — ліпені 1926 года Купала напіша поўныя драматызму і глыбокага роздуму вершы «Па Даўгінаўскім гасцінцы», «Царскія дары», «У лесе», «На пагранічы», «Гутарка аб кепскім гаспадару» і інш. На высо-

згадваючы «Сачыненне» ў агля-дзе маладой прозы (зб. «Вобраз-88»), зрабіў намёк на залежнасць А. Федарэнкі ад рускай класікі.

Такая думка пра творчую манеру А. Федарэнкі, наколькі мне вядома, даволі распаўсюджаная *і сярод моладзі;* прычым, калі залежнасць, скажам, ад Дж. Джойса ці Ф. Кафкі лічылася б тут вялікім прагрэсам, то зусім не тое з Л. Талстым ці Ф. Дастаеўскім.

Дык ці мае рацыю А. Сідарэвіч? Ці мацаваць А. Федарэнку кола да калёсаў ці вынаходзіць яго нанова?

А. Федарэнка відавочна вучань рускай класікі па культуры рэфлексіі, падкрэслім, **па культуры.** І найвіднейшае яго з гэтай класікі запазычанне — гранічная, бязлітасная шчырасць. Прынцыповая адсутнасць позы ў адрозненне ад тых маладых аўтараў, якія яшчэ «не спазналі сябе» і ў якіх поза зрабілася апірышчам іміджу.

Тым жа часам зусім відавочная прыналежнасць А. Федарэнкі да беларускай гуманітарнай сферы, да літары і духу нацыянальнага. Сам склад ягонага светаадчування і мыслення — *моўнага, інтанацыйнага,* урэшце невымоўнага — перш за ўсё звязаны з аурай беларускага духу. Гэта мысленне беларускага юнака з вопытам вясковага маленства 70-х гадоў, і гэтая асоба, гэты вопыт перш за ўсё стаіць за кожным радком нашага аўтара.

У пошуках маладых творцаў пераважае пафас адмаўлення. Маладая фронда, калі яна не крыважэрная, карысная літаратуры, але яна толькі першы клас, узровень асабістых варункаў, і сталець асобе пажадана чым хутчэй. А. Федарэнка сярод паплечнікаў выдае сталым: з-за таго найперш, што ён свабодны ад прынцыповай няпрыязі да той традыцыі, ад якой іншыя кінуліся ўпрочкі. Ён традыцыю ведае, любіць і таму яе не баіцца.

А звонку, непасрэдна ў тэксце, усё проста: А. Федарэнка ўмее пазначыць такія рэаліі, што, дзякуючы ім, у свядомасці чытача ўсплывае свой, перажыты і рацыянальна набыты вопыт жыцця з яго невыказным сэнсам. І гэта яшчэ не ўсё, бо, калі гаварыць строга, то суперажыванне чытача тэксту ёсць элементарная перадумова прадуктыўнага чытання. У творах А. Федарэнкі сэнсавыя пачаткі і канцы губляюцца па-за канкрэтыкай тэксту, у ягонай прозе ёсць сэнс і сэнс. Прычым знешне аніякага трансцэдэнту, усё ў лепшых традыцыях падрабязнага прамога апавядання.

Пра што, напрыклад, напісана кароткае апавяданне «Забабоны» (у кнізе «Гісторыя хваробы», 1989 г.)? Сярод убоства сучаснай вёскі — дзеянне адбываецца адліжнаю зімою — неяк жывуць людзі, зберагаючы ў сабе чалавечае цяпло і душу. Яна карэніцца недзе глыбока, ля самых вытокаў яшчэ паганскага адчування адухоўленасці і сэнсу прыроды, жыцця. Нічым нязводная чалавечнасць прабіваецца праз няўтульнасць і жорсткасць савецкага побыту. І вось малады напаўвясковы хлопец *амбітна бярэцца* судзіць, нават «перарабляць» гэтае беднае жыццё. Не таму, што ён неразумны, благі. А таму, што ён **іншы,** ён адарваўся ад старасвецкіх «забабонаў», ён арыентаваны на вабноты нашага хлуслівага афіцыёзу. Апавяданне нібы нічога не вырашае, яно толькі вярэдзіць, непакоіць. Па форме гэта некалькі дыялогаў з традыцыйным сціплым аўтарскім каментарыем без прыкметных вызначальных намёкаў; дзеючыя асобы зусім звычайныя — двое хлопцаў, наравісты дзядок ды яго сын. Аднак гэтае апавяданне чужое нашай класічнай вясковай прозе сваім проста касмічным холадам, выстуджанасцю прасторы, у якой трымцяць чалавечыя і прыродныя сувязі. Жывая душа вёскі, простая і адначасова таямнічая, не адкрываецца павярхоўнаму погляду халоднага чалавека; між тым кожны максіміліст, няхай сабе і па наіўнасці, мае магчымасць «перарабляць» тое, чаго не разумее...

Вядома, не кожны радок А. *Федарэнкі бясспрэчны. Моцна* расчаравала пагоршанае перавыданне кнігі «Гісторыя хваробы», 1990 г. Ды і ў 1989 годзе ў гэтай кнізе непрыемна было сустрэць ледзь прыхаваныя выпады супраць свайго ж брата-пісьменніка,— наша правінцыйная мода. І ў цікавай кніжцы А. Казлова «Міражы ценяў» гэта ёсць; не лепшае, не лепшае пазычаецца ў старэйшых... Здараецца, што А. Федарэнка як празаік у акалічнасцях, у знаёмых апісаннях блытаецца, пракідаецца ў яго і проста нязграбнасць. Але ўрэшце мастацкая мэта, хвалюючае паразуменне з чытачом дасягаецца. Хваляванне ж аўтара заўсёды вельмі адчувальнае і таго «інтэлігенцкага» гатунку, што мае на ўвазе збітае на горкі яблык славутае самаедства, без якога, аднак, як без першай прыступкі, немагчымая культура. Нават калі самааналіз пакідаецца па-за літарай тэксту, без яго немагчымы генезіс мастака.

Справа тут, вядома, у псіхалагізме. Але не ў банальным сэнсе тэрміна. Без «псіхеі, ластаўкі, душы» любы тэкст — толькі могілкі знакаў. Спосаб апавядання А. Федарэнкі, як і ўсе, здаецца, вядомыя спосабы апавядання ў свеце, з абсурдыцкімі ўключна, сто разоў апісаны лепшымі даследчыкамі класічнай псіхалагічнай прозы, як рускай, так і замежнай. Гэта тая манера апавядання, калі пісьменнік паказвае адносна аўтаномную, асінхронную да праяў знешняга свету плынь унутранага жыцця чалавека, з абавязковым у той жа час паказам гэтага самага аб'ектыўнага пачатку — знешняга жыцця.

Сам прынцып, такім чынам, не новы. Штука ў тым, каб адкрываць кожны раз нанова ў рэальным жыцці гэтыя сутнасныя «счапленні» розных з'яў і знаходзіць сродкі адэкватнага перакладу адкрытага на паперу. Выяўленчыя формы А. Федарэнкі якраз і даюць мажлівасць убачыць, як, з чаго склалася тое, што спраўдзілася, што маеш як факт, як падзею, як вынік,— тое, чаго ніхто не чакаў. Уражвае здольнасць маладога аўтара ўбачыць, асэнсаваць і напісаць жыццёвую з'яву ва ўсім перапляценні рознаўзроўневых узаемасувязей, абумоўленасцей, імпульсаў, ва ўсёй уплеценасці ў жыццё.

Прыкметнае сваёй стылёвай нязмушанасцю апавяданне А. Федарэнкі «Гульні» (зб. «Жнівенскі праспект», 1988 г.). Група падлеткаў на чале з хуліганістым Матросам начамі крадзе коней у недалёкай ад горада вясковай канюшні дзеля рызыкоўных забаваў. Рызыкоўных, таму што забава немагчымая без жорсткасці і да коней, і да іхніх гаспадароў, старых безабаронных людзей. Да кампаніі прыбіўся і «добры» хлопчык з «добрай» сям'і. Чытачу адкрыта плынь яго свядомасці поруч з катастрафічна імклівай плынню гвалтоўных учынкаў бязлітаснага Матроса, поруч з пластычнымі падрабязнасцямі часу і месца дзеяння, з тым *мноствам мастацкіх* дэталяў, якія бачацца непазбежнымі і чароўна выпадковымі і якія вызначаюць атмасферу твора. І, можа быць, сэрца твора, яго болевая кропка — гэта знешнасць, дзеянні і думкі старога конюха Мірончыка ды адзінокай Алены, гаспадыні спрацаванага коніка Трутня. Начная прыгода хлопцаў як факт жыцця кожнага з персанажаў (і падлеткаў, і старых, і нават коней) мае для ўсіх рознае асабістае значэнне, сэнс і вынік. У кожнага свой лёс і сваё месца ў рэчаіснасці. І чытачу застаецца падзяліць з аўтарам перажыванне жорсткасці няўмольнай, прадвызначанай закамянелай дысгармоніяй нашага жыцця. Фармальна апавяданне вельмі невялікае, і з васьмі малафарматных старонак сцэны з удзелам Мірончыка і Алены ледзь займаюць дзве. Аднак болевая кропка развярэджана. І *такая мэта, такім шляхам* апеляцыя да адзінага, што мае сэнс,— гуманізму,— бачыцца сталай дамінантай стылю А. Федарэнкі.

*Дамінуючая партыя* падпарадкоўвае сабе больш дробныя формы. Так, у аповесці «Гісторыя хваробы», напрыклад, згадваецца Фрэйд і «праклятая дастаеўшчына». Прыплюсуйце сюды форму дзённікаў, лістоў,— і можна сабе ўявіць, з якім уражаннем дрэннай суб'ектыўнасці, бывае, звязваецца падобная атрыбутыка. Між тым аповесць А. Федарэнкі, маленькая гісторыя душэўных пакут сённяшняга студэнта, люструе перш за ўсё сацыяльную трагедыю сучаснага чалавека, беларуса: сацыяльную і ў сэнсе ўзроўню жыцця, і ў сэнсе соцыума — сувязі з іншымі, неадзіноты, духоўнасці, кахання.

Мы ўжо згадвалі зборнік твораў маладых празаікаў «Перад маімі вачыма». Відавочна лепшае, на парадак вышэйшае за астатнія ў ім, на маю думку, апавяданне А. Федарэнкі «Адзін летні дзень». Яно напісана з гарэзлівай лёгкасцю, але пры гэтым імгненна пазнаецца гэты стыль, гэтая рука: усё сыходзіцца да чалавечай душы, якая не абаронена прымітыўнасцю ад таго болю і несвабоды, што неадлучныя ад нашага існавання.

А вось адзін з апошніх твораў А. Федарэнкі — «Смута, альбо 12 фантазій на адну тэму», з падзагалоўкам «Аповесць-фантасмагорыя», надрукаваны ў сакавіцкім нумары «Маладосці» за гэты год, расчараваў. Няма нават ахвоты суцешыцца пошукамі якога-небудзь нетрывіяльнага «ідэйнага зместу», таму што знарочыстая прынука не дае дыхнуць. Як для пачаткоўца - беларусізатара фантастычнага жанру, дык узровень яўна вышэй сярэдняга! Як для аўтара аповесці «Гісторыя хваробы»... Думаеш, ці не змогся чалавек быць па-сапраўднаму шчырым, ці не здоўжылася яму доля сярод тутэйшых некандовая... І галоўнае, псіхалагічныя «вушы» ўсё роўна вытыркаюцца, бо там, недзе за імі, сапраўдны, сутнасны ўзровень.

Ох, ужо гэтая псіхалогія беларуса! Комплексаў у нас, вякамі паднявольных, аж зашмат, але ж заціскацьмем, раскрывацца не прывыклі. Не фізічная, а маральная пакута як частка нацыянальнага космасу, — ніхто з маладых не напісаў пра гэта глыбей за А. Федарэнку! Як блізкае пафасам, пачуццёвым строем прыгадваецца хіба што апавяданне А. Асташонка «Акцэнт».

Праўда, ёсць больш папулярны спосаб перажываць нашу нацыянальную ды сацыяльную абрабаванасць,— менавіта праз знешняе: гняўліва, гучна-бурна, як, напрыклад, у вершы М. Скоблы пра Юду і Юдаву кроў, дзе беларусы называюцца юдаўскай нацыяй.

Не ведаю, не ведаю... Ты скрываўлены, дык ты ж яшчэ і больш за ката вінаваты.

Час ідзе, і вось ужо фактам робіцца новая грамадская сітуацыя, новыя ўмовы пачынаюць фарміраваць літаратурнае жыццё. Куды прывядуць шляхі нашу творчую моладзь?

---

кай трагічнай ноце гучыць у іх матыў «забранага краю». Тэматычна верш «За ўсе краі, за ўсе народы сьвету...» са сваёй вобразнастылявой кампазіцыяй арганічна ўпісваецца ў кантэкст твораў Купалаўскага цыкла 1926 года і лагічна з ім звязаны. Сам жа гэты цыкл вершаў, у адрозненне ад ляўкоўскага, сапраўды з'яўляецца адной з вяршыняў творчасці Купалы, яго лебядзінай песняй. Паэт добра разумеў, што народ «выйдзе за волю ў паход» толькі тады, калі будзе выразна бачыць і ўсведамляць сваю гістарычную перспектыву, калі ў яго на вуснах будзе гучаць матыў жыццесвярджальнай песні. І сам Купала адзначыў, што ён яшчэ здольны спаўняць да канца сваю місію песняра нацыянальнага адраджэння, нягледзячы ні на якія перашкоды і згрызоты:

> Ёсць жа яшчэ ў мяне песень,
> Поўных надзеі, жыцця,—
> Як бы ні быў ім свет цесен,
> Вырвуцца ў свет з небыцця.
> («Ёсць жа яшчэ...»)

Адной з гэтых песень-заклікаў, магчыма, і з'яўляецца верш «За ўсе краі, за ўсе народы сьвету...».

1929 год стаў *пагранічным* для Купалы-прарока і вестуна нацыянальнага адраджэння, які зваў народ «з путаў на свабоду». Далей пачынаўся іншы Купала, асобу і паэтычны дар якога гвалцілі чыноўнікі казённай радасці і ружовага дэкларатызму. Але і ў такім атачэнні ён застаўся назаўсёды песняром свайго народа.

На астатку хацелася б сказаць наступнае. Творы невядомых беларускіх аўтараў таксама спадчына. Яе нельга пакідаць у небыцці або далікатна, не абцяжарваючы *сябе пошукамі,* абмінаць. Гэта спадчына таксама мае сваё права на жыццё ў гісторыі беларускай літаратуры. Яна чакае ўдумлівага даследчыка, які адновіць — няхай сабе і не ўсе — імёны яе творцаў.

**Юрась ГАРБІНСКІ.**

***

За ўсе краі, за ўсе народы сьвету,
І што былі, і прыдуць што пасля,
Аздобленае горкім, цьмяным цьветам
Зазнаць нам гора лёс благі *паслаў.*
Скараліся і моўчкі ўсё прыймалі:
Самохаць можа прыйдзе лепшы час.
Як лісьцінку на поплаве качалі
І зьневажалі чужаніцы нас.
Калёнія праз некалькі сталецьцяў,
Наедак ненажорным груганом...
Я прысягаю—праклянуць нас дзеці...
За апяшаласьць нашу нам праклён.
На плечы ганьбы мы прынялі многа:
Нявольніцтва, жабрацтва навакол.
Сьлязьмі сясьцёр чужынцам мыем ногі,
Заместа песен—стогны бедакоў.
Прыціх наш край: ад гутарак аскома...
Прыціх наш край: маўчаць, усе маўчаць.
Свабодай карыстаюцца сачкомы,
Каб тых, хто мысьліць, у вастрог саджаць.
Дакуль чакаць і варажыць павінны?
Пакуль раса ня выесьць вочы нам...
З усіх бакоў над нашаю краінай
Сплялася нясусьветная мана.
На нашым карку торг спраўляе сьмела
Масква з Варшавай, з Рыгай і Літвой,
І наша змучанае катам цела
Штогодна новай кроіцца *мяжой.*
Масква сусьвету вушы прашумела
Пра самавызначэньне аж да зор.
Смаленск дзе? Нэвель? Гомель дзе падзела?
Стварыла Гомельскі ганебны калідор.
. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .
Мы цацкай нейкай для чужынцаў сталі,
Пасьмешышчам для сьвету ўсяго.
Як быццам мала ў нашай волі сталі,
Як быццам ў сэрцах нашых згас агонь.
Браты мае! Даволі ашуканства,
Гасьцей да хаты выправіць пара.
З лазы заплаканай спляцём ім кайстры
Для нарабаванага у нас дабра.
Сьляды іх гідкія пяском пасыпем,
Пясочкам сьветленькім пасыпем іх,
Каб гэтай шумы, акупантаў-злыдняў
Апошні водгук прагучэў і сьціх.
А не,—дык надармо ўсё, жыцьцё надарма,
Лажыся ў яму Сам, Народзе мой,—
Пакуль ты сам ня будзеш гаспадарыць,—
Не развітаешся з жабрацкай калітой.

*Менск. 29 верасьня 1926 г.*

---

## ВІНШУЕМ!



3 верасня Міколу Сергіевічу споўнілася 70 гадоў. **Віншуем Мікалая Антонавіча з юбілеем, зычым яму ўсяго найлепшага.**



**60 гадоў вядомаму крытыку і літаратуразнаўцу Юліі Канэ. Жадаем Юліі Міхайлаўне добрага здароўя, плёну ў літаратурнай дзейнасці.**



Пісьменніку *Сямёну* Бунчыну споўнілася 50 гадоў. «ЛіМ» віншуе Сямёна Уладзіміравіча з юбілеем, жадае творчых поспехаў.

## НАШ КАЛЯНДАР

**160 гадоў з дня нараджэння беларуска-польскага паэта і журналіста Вінцэся Каратынскага споўнілася 15 жніўня (памёр 7 лютага 1891 года). Па-польску выдаў кніжку вершаў «Чым хата багата, тым рада», паэму «Таміла», вершаваны памфлет «Выпіў Куба да Якуба». Беларуская мастацкая спадчына В. Каратынскага, якая захавалася, невялікая — вершы «Уставайма, братцы, да дзела, да дзела», «Дай бог-то, Арцім...», элегія «Туга на чужой старане». Некаторыя даследчыкі выказваюць меркаванне, што В. Каратынскі з'яўляецца аўтарам «Гутаркі старога дзеда» і «Гутаркі двух суседзяў» — ананімных твораў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Творы В. Каратынскага асобнай кнігай выходзілі ў 1981 годзе. Перавыданне чакаецца ў 1992 годзе ў серыі «Спадчына».**

●

**85 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Макара Паслядовіча** ***споўнілася 21 жніўня (памёр*** **30 снежня 1984 года). Аўтар раманаў «Паўстанне», «Святло над Ліпскам», аповесцяў «Магістральны канал», «Цёплае дыханне» і іншых. Напісаў дакументальную аповесць пра К. Арлоўскага «З табою побач». Выступаў у галіне дзіцячай літаратуры, драматургіі, нарыса, займаўся перакладчыцкай дзейнасцю.**



*Валерый Няхай*

# МАРЫЛЬКА

*апавяданне*

пакоі і, рэзка павярнуўшыся да жонкі, нечакана спытаў:

— Ці памятаеш ты, колькі грошай прыносіў я дадому, калі шэсць разоў на тыдзень топаў у школу, каб навучыць пустыя галовы адрозніваць выказнікі і дзейнікі? Калі будзеш адказваць, не забудзь пра тое, што ў нас робіцца сёння з таварамі і якія цэны нас чакаюць заўтра.

Ці ёсць у свеце жанчына, якая б не ведала заробкаў мужа? Ведала гэта і Марылька. Яна назвала лічбу нібыта спакойна, ды, зірнуўшы на рэчы, якія яна толькі што мерала, зжахнулася. Гэта ж колькі тых зарплат трэба было б на ўсё гэта? А тут за тры дні?! Выгляд у Марылькі быў такі, быццам яна трапіла ў гэты пакой упершыню і яшчэ не асвоілася ў ім. І знячэўку прыбегла думка: «А, можа, я перабольшваю небяспеку? Вунь колькі людзей на той жа Камароўцы прадаюць і перапрадаюць, і нічога...»

Толік быццам думкі яе прачытаў.

— Па-першае, — сказаў ён,—гэта не так лёгка—злавіць. Мала аб чым я магу гаварыць з іншаземцам! Галоўнае, Марылька, не засвяціцца. Па-другое, гэта не наркотыкі і не зброя. Бізнес, вядома, вельмі выгадны, але наша грамадства яшчэ не дастаткова дэмакратычнае, каб можна было ім займацца. Ты лепш падумай вось пра што. Я ж, каб ты ведала, раблю ласку нашаму няшчаснаму пакупніку, які вечарам гатовы чэрап праламаць за пару шкарпэтак. Дзе ён яшчэ знойдзе вось такія джынсы? А гэтыя італьянскія красоўкі? А, зірні, які прыгожы гэты камплект бялізны для юнай брунеткі!

Марылька з твару змянілася, забылася на ўсё тое, пра што гаварылі. Аказваецца, яе праўда: ма́е, ма́е Толік другую. Брунетку нейкую...

Толік датумкаў, што ляпнуў лішняе, кінуўся апраўдвацца:

— Гэта так, між іншым, Марылька. Як ты можаш думаць нешта такое? Ты мая і брунетка, і бландзінка, і шатэнка. Ну, супакойся, табе нельга зараз хвалявацца.

Але Марылька па-ранейшаму глядзела на яго моўчкі, ледзь прыжмурыўшы вочы, і Толік зразумеў, што патрэбны іншыя аргументы для выпраўлення становішча. Палез ён рукою ва ўнутраную кішэню, дастаў малюпасенькую скрыначку-пакунак, раскрыў яе і ўрачыста падаў жонцы. На чырвонай падушачцы ляжала залатая брошка ў выглядзе лісточка, з зялёным каменьчыкам у цэнтры. Лісточак быў сплецены з ажурных, танюсенькіх, як павуцінка, залатых ніточак, ён здаваўся нерэальным — дакраніся да яго пальцам і ён растане, як ільдзінка. Марылька кінулася да шафы, скінула з плеч халат, надзела любімую кофтачку і прыклала брошку да грудзей. Каменьчык зіхатнуў празрыстымі гранямі, залатая павуцінка пяшчотна заблішчала. Марылька паварочвалася перад люстэркам то адным, то другім бокам, і каменьчык пераліваўся, як кропля расы на сонцы.

— Толічак, які ты харошы! — Марылька абняла мужа і моцна пацалавала яго...

З тых пор колісь спакойнае іх жыццё пачало парушацца нечаканымі званкамі і візітамі, якія пачыналіся з раніцы і канчаліся позна вечарам. Кліенты званілі і прыходзілі, калі ім было зручна (яны плацілі, і з гэтым даводзілася лічыцца). «Прабачце, Анатоль дома?»... Кожны званок у дзверы або па тэлефоне пачынаўся з гэткага пытання, на што Марылька адказвала: «Калі ласка, заходзьце», ці «Мужа зараз няма, пазваніце праз...» Мужчыны і жанчыны кожны раз пераступалі парог Марыльчынага дома з лісліваю ў вачах і з непрыхаванай нецярплівасцю атрымаць тое, па што прыйшлі. Гэтае нецярпенне, абазначанае часцей за ўсё ў размове, па першым часе забаўляла Марыльку, і яна, уручаючы пакупку наведнікам, прымаючы ад іх грошы, цешылася за сваёй ролі дабрадзейкі, што выпала на яе лёс.

Аднойчы Толік з нейкім чарнявым юнаком прывалок дамоў дзве скрыні з тэлевізарамі і халадзільнік. Тэлевізары прызначаліся пані Ядвісі з Кракава («Ты не памятаеш? Яна да нас прыязджала месяц назад»), а халадзільнік — шчодраму Гогі (гэтак яго зваў Толік). Але Марылька не памятала ні пані Ядвісі, ні Гогі... Усе Толікавы кліенты хутка сталі для яе непрыкметнымі і аднолькавымі, як цені.

Як толькі з кватэры зніклі тэлевізары і халадзільнік, вітальню занялі пяць складных веласіпедаў (таксама заказ). Цэлы тыдзень у кватэры стаяў моцны пах металу і змазкі. Потым тут ляжалі наборы сталярнага інструменту... Для зручнасці Толік кожны тавар суправаджаў «дакументамі», дзе былі ўказаны імя пакупніка, часам — месца ягонае працы (патрэбныя людзі не пашкодзяць), а яшчэ ставіў крыжык або нулік. Крыжык азначаў: заказ тэрміновы, доўга трымаць не варта, а нулік гаварыў пра тое, што рэч гэту Толік дастаў з цяжкасцю і пытанне аб аплаце будзе стаяць асобна. Вядома, Марылька не ведала гэтай Толікавай бухгалтэрыі, яе задача была іншая—сустрэць, перадаць, праводзіць кліентаў. Гэта дадавала клопату, але, не забываючы вядомую мудрасць, што за ўсё трэба плаціць, Марылька ставілася да яго па-жыцейску проста: турботна, затое выгодна.

Прайшло два гады. Юрачка, самы малодшы член дабрадзейнага сямейства, рос моцным і паслухмяным хлопчыкам. Калі прыйшоў час адводзіць яго ў яслі, на сямейным савеце было вырашана, што маці прадоўжыць свой дэкрэтны адпачынак (якраз і закон выйшаў) яшчэ на год. Нянькі і настаўнікі, гэтыя казённыя выхавальнікі, нідзе не дзенуцца, прыйдуць у жыццё Юрачкі, але хай гэта здарыцца як мага пазней. Да таго ж, тыя сто семдзесят рублёў—Марыльчын заробак у будаўнічай канторы на пасадзе бухгалтара — уяўляўся для сямейнага бюджэта ўжо проста зняважлівым. Хіба толькі на цацкі Юрачку.

Кола рулеткі, запушчанае лёгкай Толікавай рукой, штораз спынялася на выйгрышным нумары: аўтамабіль, гараж, імпартная, з чорнага дрэва мэбля, вельмі падобная на музейную рэдкасць... Нарэшце, апошняя Толікава навіна — узяты на прымету добры домік на дачу ў райскім куточку. Услед за грашовым патокам, які з шамаценнем струменіўся за двайныя дзверы (другія паставілі нядаўна), абабітыя дэрмацінам, з вочкамі і трыма сакрэтнымі замкамі, на Марыльку зваліліся іншыя даброты. Забылася яна на клопат пра такія дробязі, як дэфіцытныя лекі, білецікі на ўсіх заезджых гастралёраў, лепшы ў горадзе масажны кабінет з басейнам і саунай, пуцёўкі ў інтурыстаўскі Дагамыс і многае іншае, пра што мы, грэшныя, і не здагадваемся, бо гэта ўтрымліваецца ў сакрэце, як дзяржаўная тайна. Такое дабрабытнае існаванне, калі любое Марыльчына пажаданне выконвалася ці не адразу (дастаткова было тэлефанаваць Толікавым кліентам), іншы раз успрымалася як салодкім сном, які хутка скончыцца. Але ішлі тыдні, месяцы, а сон доўжыўся, і Марылька паступова паверыла, што прачнуцца ўжо і не давядзецца. Але пустыя магазіны, доўгія чэргі, злосныя людскія твары, крымінальная хроніка ў газетах і на тэлебачанні—жыццё ішло побач, мутным, жахлівым патокам праносілася міма вокан Марыльчынага дома, і гэтае жыццё раздражняла, палохала, пастаянна трымала Марыльку ў нейкім напружанні, у прадчуванні бяды, якая калінебудзь няпрошана пастукаецца ў дзверы. Марыльцы мроілася то напад на яе самую, то спроба ўкрасці Юрачку. Яна сказала пра гэтыя страхі Толіку. Ён нічога не прамовіў, але стаў часцей бываць дома, а калі тавару збіралася шмат, грузіў яго ў багажнік машыны і кудысьці адвозіў.

Візіты сяброван якія любілі заскочыць у яе райскі куток прыгубіць заморскага лікёру, выкурыць іншаземную цыгарэту, ужо не прыносілі Марыльцы, як раней, задавальнення. Яна часта лавіла ў шчабятанні сяброван ноткі непрыхаванай зайздрасці, і засмучалася: зайздросцяць — значыць жадаюць зла, ненавідзяць. Яна не зважала, даравала ім, старалася не бачыць, як шматзначна іншы раз пераглядваліся яе сяброўкі, але лягчэй ад гэтага не рабілася. Зусім выпадкова Марылька даведалася, што яе кватэру сяброўкі называюць купецкай крамкай, а яе самую—купчыхай, ні на што не здатнай, акрамя як бессаромна карыстацца дабротамі, што здабывае яе муж-фарцоўшчык. Ратавальная думка пра тое, што яна сядзіць дома толькі дзеля выхавання сына, не прыносіла задавальнення. Яна разумела, што нічога асаблівага не можа даць сыну, бо нічым не цікавілася, мала дзе бывала, кніг не чытала і, акрамя фільмаў-жахаў, баевікоў і парнаграфіі па «відзіку», нічога не бачыла.

І аднойчы, калі Толік вярнуўся з паездкі, Марылька на яго заўсёдны запыт «як справы?» адказала раптам проста, без хітрыкаў:

— Якія могуць быць справы ў захавальніка гэтага бязглуздага музея ўзораў адзення з усіх кантынентаў свету, якія час ад часу мне даводзіцца выдаваць наведнікам? Каб ты ведаў, як мне хочацца раніцай сесці ў аўтобус, некуды паехаць, паслухаць нармальны чалавечы голас... Не перабівай, я ведаю, што ты хочаш сказаць: «З раскошы шалееш». Хай так... Турэцкі унітаз, фінская плітка, югаслаўская мэбля, французскія лікёры... Калі б яшчэ да ўсяго гэтага хоць крышачку чалавечага цяпла! Госпадзі, нават сяброўкі ненавідзяць мяне! Зайздросцяць! Прыязджаюць толькі дзеля таго, каб выпіць, паглядзець «відзік», выкурыць замежную цыгарэтку... Мы гаварылі з табой, што Юрачку ў садзіку сапсуюць, навучаць усялякай брыдоце, што ён пачне хварэць. Гэтая кватэра, поўная ўсялякага замежнага дзярма, хутчэй загубіць дзіця... Я разумею, грошы патрэбны, каб жыць па-чалавечы, але ж не прысвячаць ім усё сваё жыццё! Цябе задавальняе такое жыццё? Табе я патрэбна ці вартаўнік кватэры, работнік, які ў любы час дня і ночы сустрэне тваіх кліентаў? Ты хоць раз угледзеўся ў вочы гэтых людзей? Задумваўся над тым, за каго яны нас прымаюць?

Толік разумеў, што жончыны словы спелі даўно, і здзіўляўся, чаму не заўважаў гэтых перамен у ёй раней. Калі ж гэта ў ёй пачалося? Што будзе далей? Рашучасць, з якой жонка гаварыла з ім, сведчыла, што перад ім ужо не тая памяркоўная, ласкавая Марылька, у якой радасна ўспыхвалі вачаняты ад кожнай новай імпартнай рэчы. Яму трэба нешта адказаць, нешта зрабіць адразу ж, бо нітачка пацягнецца далей, пачне абрастаць вузельчыкамі, якія потым не разблытаць. Можа, і праўда, хай ідзе на работу, а малога адвесці ў садок? Але ж тады парушыцца ўвесь адладжаны механізм, у якім ён, Толік, існаваў: мог суткамі не бываць дома, ведаючы, што Марылька каго трэба—сустрэне, куды неабходна—патэлефануе, дамовіцца. Ды і той самы вартаўнік у доме ёсць. Лепей паабяцаць усё, што хоча, а там будзе відаць, нешта прыдумаецца. І Толік спакойна сказаў:

— Твая праўда, вядома. Але ж ці можам мы раптам змяніць усё гэта? Трэба пара́дзіцца нам з табой, абмеркаваць. Але пакуль што ў мяне будзе да цябе адна просьба.—Толік узяў дзіця, прайшоўся з ім па пакоі.—Бачыш, на парозе зіма, і я сапраўды баюся, што калі мы аддадзім Юрачку ў садзік, ён пачне хварэць. Можа, пасядзіш з ім да вясны? А потым, так і быць, ідзі ў сваю бухгалтэрыю. А, можа, маці тваю забраць да нас? Ты б мела больш вольнага часу...

Толікаў разлік зрабіў сваё. Марылька нічога больш не сказала. Тым днём і Толік застаўся дома, да самага сну гуляў з сынам.

Мінуў месяц. І вось ізноў вечар, Юрачка заснуў, а Марыльцы не спалася. Яна другі раз падышла да акна, прыслухалася, як дождж-шаптун перамаўляўся з падаконнікам. Унізе пад ліхтаром блішчэлі лужыны... Прыплыла думка, што позна ўжо і трэба ісці спаць, заўтра Юрачка падыме рана. Спаць, зноў спаць? Каб раніцай, прачнуўшыся, пачаць рабіць тое ж самае, што рабіла сёння, учора, вось ужо два гады, амаль не мяняючы нічога? Марылька павяла кончыкамі пальцаў па халоднай шыбіне, вярнулася ў пакой, падышла да бара і дастала з яго бутэльку з мутнага, зялёнага шкла—бананавы лікёр. Боскі напой! Пяшчотна коціцца ў горла, і галава ад яго не цяжэе, а прасвятляецца... Марылька наліла ў чарку, выпіла, падышла да люстэрка. У ім яе адлюстраванне падалося Марыльцы нейкім незнаёмым, ацяжэлым. Марылька ўсміхнулася. Разглядаючы сябе ў люстэрку, не магла засяродзіцца ні на чым адным: мільгануў твар у дробных вяснушках з прыпухлінамі пад вачыма, грудзі... Нешта не тое, падумала Марылька, не ўражвае. Яна хуценька пераапранулася. Вось яна зноў перад люстэркам у прыгожай чорнай кофце, у шэрай тоўстай спадніцы... Брошкі не хапае! Цяпер, здаецца, усё на месцы, але ўсё роўна нешта не тое. Зноў тая ж шэрасць. Брошка патухла, не гарыць, як раней, а... Зноў гэтая сумка! Ляжыць ужо трэція суткі ў куце, тоўстая, як закормленая кошка. Хіба зазірнуць у яе?

Марылька вываліла ўсё з сумкі на падлогу, прысела на кукішкі, разгарнула адзін пакунак: лісток паперы, складзены папалам, жаночыя трусікі, бюстгалтар, дэзадарант і прэзэрвативы, здаецца, індыйскія. У дамачкі памер што трэба, падумала Марылька, гледзячы на бюстгалтар. Разгарнула паперчыну. На ёй Толікавай рукой было напісана: «Лена, тэатр аперэты» І побач — крыжык. Усё для таго, каб прымаць мужчын, падумала Марылька, грэбліва адкідваючы нагою рэчы. Выпіла яшчэ адну чарку, выпіла не спяшаючыся, затрымаўшы густую вадкасць у роце. Абпаліла дзясны. Вярнулася да сумкі. У другім пакеце, значна большым, аказалася пара жаночых ботаў (Італія, тонкая шпілька, ззаду—шнуроўка, памер не яе, Марыльчын) і такі ж лісток паперы, дзе таксама ягоным почаркам было напісана: «Оля, салон». А побач стаяў нулік, падобны на літару «О». Мастак ён на замароку, падумала Марылька пра мужа. Ці то ад ментаў маскіруецца, ці то ад мяне. Хутчэй за ўсё—ад мяне. А наогул, як кажуць, без пляшкі не разбярэшся. Выпіла запар дзве чаркі. Зажмурылася, сціснула зубы, адчула, як у галаве бы нейкая карусель закружылася... Расплюшчыла вочы, піхнула боты нагой, пахіснулася. Кожнаму сваё, падумала Марылька. Ён ад'язджае і вяртаецца і зноў ад'язджае, а куды, да каго? Вось дурніца! Як гэта яна адкінула тое, што ён можа быць з бабамі? Вольны коршак! А я — дома. Раніцай, днём, вечарам... «Юрачку ў садок нельга, Юрачка пачне хварэць...» Марылька п'яненька зарагатала. Ліха з ім, піць—дык піць! Выпіла яшчэ чарку, ужо не чуючы ні смаку, ні паху. Заблажыла. Добра было б падыхаць свежым паветрам, мільганула думка. Пайшла ў вітальню, апранула куртку, з цяжкасцю зашмаргнула «маланку». У дзяцячым пакоі заплакаў Юрачка. Марылька не пачула: якраз адчыняла дзверы. Адчыніла і прычыніла іх за сабой. Ключ ад кватэры застаўся на трумо.

Марылька выйшла з пад'езда. Ноч, мокрыя прыступкі пад нагамі, чорныя правалы між дамамі. Спакой і свежасць. Прайсціся ў гэтай свежай цішыні—больш нічога не хачу. На ўсё начхаць...

Паволі рушыла ўперад, стараючыся абыходзіць лужыны. Хістануўся пад нагамі тратуар, і Марылька гарэзліва засмяялася. Было ціха, а цяпер так шуміць вакол! Ага, гэта яна выйшла на вуліцу...

За спіной нешта шаргатнула і з туману жоўтым хамячком вынырнулі «Жыгулі», прытармазілі. Толік—мільганула радасна ў Марыльчынай галаве. Вырашыў без званка заявіцца? Госпадзі, а я не прычэсаная...

Постаці людзей, іх таропкія крокі і цяжкае дыханне побач... Дзе ж Толік? А, за рулём застаўся, а гэта яго сябры. Балюча ўдарылася каленкам аб адчыненыя дзверцы.

— Чаго ты цягнеш, сама сяду. Толік, прывітанне. А дзе ж ён? Ды не хапай мяне, пусці...

Сіняе святло ліхтара выхапіла чужы твар таго, што сядзеў за рулём. Гэта зусім не ён, зусім не ён. У Толіка іншыя вочы, і нос, і...

Марылька адчула, як ззаду моцныя, грубыя рукі здушылі ёй горла і запракінулі галаву.

## КУДЫ Ж ТЫ ПРАПАЛА, СКРЫПКА ДЗЯДЗЬКІ АМБРОСЯ?

Дзе б я ні працаваў: у сімфанічным аркестры, у музычным вучылішчы, у філармоніі ці ў музычнай школе, стараўся ўважліва назіраць, як адзываецца наша музычнае мастацтва ў душах людскіх. Няважна — прафесійнае ці фальклорнае, тут асаблівай розніцы няма, бо калі адно квітнее, то і другое нядрэнна «праспэруе», а гінуць яны разам.

Валодаючы славянскімі мовамі, я мог сачыць за гэтымі працэсамі ў суседзяў — праз друк ці радыё: у Польшчы, на Украіне. На жаль, параўнанне пакуль не на карысць Беларусі.

На маім вяку практычна загінуў заходнебеларускі, палескі інструментальны фальклор, які трымаўся — асабліва гэта падкрэсліваю — галоўным чынам на скрыпцы. Сёння, калі мы чуем: «фальклор», «фальклорны ансамбль», то ўяўляем сабе ў большасці выпадкаў народную песню, баладу ў выкананні пастарэлае ўжо кабеціны ці некалькіх бабуль, што спяваюць успаміны сваёй маладосці. Але ж спеў — гэта яшчэ далёка не ўсё музычнае багацце, якім славілася некалі Беларусь.

Калі вучыўся я ў Брэсцкім музычным вучылішчы, давялося ў гадах 1955—1956 часцяком выязджаць «у тэрэн». Ружаны, Высокае, Камянец, Драгічын, Янаў-Палескі (назвы якія!), навакольныя вёскі поўніліся гукамі інструментальнай музыкі. Дзіва! — я бачыў «жывы» старажытны смычковы інструмент — басэтлю ў вёсцы пад Пінскам... Скрыпка ці дзве, бас, часам кларнет. Галоўным чынам — скрыпка. Нават гармонік сустракаўся радзей, бо быў ужо занадта дарагі, раскошны. І ў кожнай мясцовасці — сваё. Там — цэлая сям'я, там — адзін-адзіны дзядок. У кожнага свой рэпертуар, адзін перад другім выхваляецца. І людзі з наваколля далёка ведалі — «вунь Амбрось з Івахнавіч такія полькі грае, куды да яго най скрыпкі Пятру з Амелінае».

Не думаў я ў свае 15 год, што трэба берагчы гэтае шчасце. Думаў — застануцца назаўсёды жывыя Амбрось ды Пятро. І гэтак многа было тае музыкі, што не хацеў, ленаваўся занатоўваць — але ўсё ж запісаў у Янаве польку з дзіўнай назвай «Саматычка» (была яшчэ адна назва, «з перцам», але няёмка яе прыводзіць тут. Магчыма, з-за той другой назвы зацікавіўся я самой мелодыяй). Пазней падараваў польку сябру майму Зміцеру Кудзіну, скрыпачу, аднакурсніку па Беларускай кансерваторыі. А ён працаваў у «Крупіцкіх музыках». Едучы неяк аўтобусам у Гомель, пачуў я праз уключанае шафёрам радыё «прывітанне» ад Зміцера: гралі «Крупіцкія музыкі» «Саматычку». Дзякуй, вам, дарагія!

**Ёсць у мяне вучань. Чацвёрты год не магу навучыць яго правільна, «акадэмічна» трымаць смычок ды скрыпку. Нават ноты чытае не вельмі добра, лянуецца. А вось мелодыю цікавую пачуе—і зараз жа падбірае яе на слых, грае сваякам ды знаёмым. Нават некалькі разоў «выступаў» на вяселлях ды пры іншых забавах. Кажуць, слухачы «раўлі не сваім голасам». Ёсць і іншыя вучні, ужо настаўнікамі працуюць па школах, кансерваторыю пазаканчвалі, нават паспелі некаторыя павыязджаць у Польшчу, Канаду ці Ізраіль. Але калі гэты мой хлопец не кіне скрыпку, будзе і далей граць, хоць і «няправільнымі» рукамі свае полькі, я буду ганарыцца, як быццам выхаваў лаўрэата. Бо гэта азначае—цягнецца яшчэ нітачка, яшчэ тамсям жывыя пазаставаліся, не забілі канчаткова душу чалавечую бразгатаннем у «маскультавыя» начныя гаршкі.**

# «І ЗА ПРЫРОДУ, І ЗА МУЗЫКУ БАЛЮЧА...»

## Лісты з Палесся

**Я з дзяцінства закаханы ў нашае Беларускае Палессе. Продкі мае жылі ў невялічкай вёсачцы з паэтычнай назвай Няневічы, што каля Чарнаўчыц пад Брэстам. Добра жылі, грэх скардзіцца.**

**Дзядзьку Міхася, як тады вялося, недзе ў 47-ым раскулачылі: забралі каня, стадолу ды яшчэ нейкае дабро. А мэблю ён паспеў раздаць па сваяках у горад. Я гэтыя ўспаміны пішу, седзячы за дзядзькавым цудоўнае прыгажосці пісьмовым сталом.**

**Калі дзядзька памёр, сястра хату з Няневіч вывезла. На месцы застаўся склеп з лічбаю на дзвярах—«1926». А ў шасцёрцы—дзірка, што лоўка прабіў з малакаліберкі мой будучы бацька, якому тады было шаснаццаць. Вось і ўсё—няма «радавога гнязда». Засталося мне ўзамен... усё Палессе.**

**І, здаецца, пабачыў я на сваім вяку амаль усю нашу краіну: і ў Нарыльск ды Хатангу прыводзіў мяне артыстычны мой лёс, і на беразе Вялікага акіяна быў, на Волзе, на Паміры, у Саянах ды на слаўным Байкале—прыгажосць неверагодная. А на Беларусі—што Гродзеншчына, што Нарачанскі край ці Прыдняпроўе—глядзі ды радуйся.**

**А ўсё ж дзе-небудзь у Антопалі ў сярэдзіне кастрычніка глянеш на полымя глогу альбо ціхенька вяслом з аднае азярыны да другой пад якім-небудзь Велаўскам праплывеш па затоках беларускай Амазонкі—Прыпяці, і ахоплівае цябе пачуццё гэткай сілы, што адступае ўражанне ад Ленінграда ці Самарканда і не ведаеш нават— ці то спяваць хочацца, ці то плакаць.**

**А яшчэ адна любоў у маім жыцці—скрыпка, музыка. І жонку абраў з кансерваторскіх сябровак, і дзецям наказаў, каб бацькоўскімі сцежкамі ішлі. Можа, дачакаюся — і ўнукі таксама пойдуць «у музыку».**

**Відаць, нездарма мой любімец У. Караткевіч вуснамі Андрэя Беларэцкага назваў беларусаў самай рамантычнай нацыяй у свеце...**

**Ды толькі апошнім часам мала што засталося ад тае рамантыкі, нешта ніякавата, трывожна ды балюча на душы—і за прыроду, і за музыку. Як у сталяра-няўмекі, што зрабіў крывыя вушакі ў ваконнай пройме ў хаце: і выкінуць не выкінеш, бо, прыціснутае бярвеннем, легла яно «ў замок», і раму ў вакно не ўставіш, бо ўсё перакошана, хоць ты сякераю яго ці кавадлам бі.**

**Карацей, нешта не так у нашым «каралеўстве».**

**Апошні раз бачыў я сапраўдных народных скрыпачоў годзе ў 59-м на нейкім святочным канцэрце ў Мінску. Выступала група вясковых скрыпачоў ці то з Віцебшчыны, ці то з Магілёўшчыны. Пазней на вёсцы я сустракаў у лепшым выпадку баян альбо гармонік. Пра скрыпачоў—толькі ўспаміны: «сусед быў скрыпач», «сястра нябожчыца грала». Глядзеў па БТ колькі гадоў таму рэпартаж пра скрыпічнага майстра, што жыве каля Рэчыцы, — і ўсё. Гомельскіх аматараў - майстроў Лаленкі ды Цыброўскага няма ўжо...**

**Ды таму дзядзьку, што вырабляе скрыпкі ў Рэчыцы, помнік паставіць трэба пры жыцці, ды дрэва добрага—яліны і клёну завезці, ды «струмант» добры справіць, ды некалькі скрыпак у музей купіць па добрай цане! А мы яму—10 мінут. Смех ды сорам, як у Шчадрына: мужыку, што двух генералаў карміў,— чарку гарэлкі ды пятак срэбрам. Весяліся!**

**Можа, усё даўно зроблена і лезу я ў адчыненыя дзверы? Толькі не верыцца. Сам дзядзька як гараваў, так і далей, відаць, сам выкручваецца. А пасля тае перадачы — цішыня. Булькнула, як у палескае балота. Колькі дабра ўжо ў той багне ляжыць—ніякай валюты не хопіць, каб адкапаць...**

Мне скажуць: «А вунь народны хор Міхася Дрынеўскага, ды «Харошкі», ды аркестр імя Жыновіча. Во як абараняюць спадчыну! Любыя мае, я памятаю. І да зямлі кланяюся і Рыгору Раманавічу Шырме, і Генадзю Іванавічу Цітовічу, і іншым нашым Славутым, бо хоць я і акадэмічны скрыпач, але ж ад іх вучыўся быць беларусам, а не толькі смаліць смыкам па струнах.

А што датычыць аркестраў ды хароў, дык, выбачайце, гэта ж — вялізная праца спецыялістаў: рэжысёра, дырыжора, выканаўцы. Стылізацыя ў выкананні высокапрафесійных адзінак. Колькі ў нас «Харошак» на Палессі? Дый не ў колькасці справа. Зразумела, вельмі добра, што існуюць гэтыя калектывы, дзякуй ім, іхнім кіраўнікам за велізарную працу. Але павінна ж існаваць і сапраўдная іх база — жывое, аўтэнтычнае народнае мастацтва. А то, шчыра кажучы, згадваецца гэткі музычны музей: назбіралі старажытных экспанатаў, падлакіравалі, падрамантавалі ды паказваем адно аднаму. Толькі шыльды няма: «Не чапай рукамі!» І патрэбна гэта, і прыемна, але паглядзеў — ідзі на вуліцу зноў, а там — шум, смурод ды недакуркі.

Трэба тое, што збераглі, аддаваць народу. Каб надышоў той час, калі б народная музыка гучала больш у хаце, чым на сцэне. А наконт так званай «масавасці»... Пакуль мы разважаем наконт «масавых калектываў», суседняя Польшча па першай праграме Варшаўскага радыё **штодзённа** дае 15 хвілін чыстай, без апрацовак інструментальнай музыкі, у тым ліку вельмі многа скрыпічнай. Дзесяцігоддзі ўжо гучыць яна, штораз прадстаўлены іншы рэгіён, асобная вёска ці новы выканаўца, амаль без паўтораў. Цікава, змаглі б мы цяпер падаць у такой колькасці чысты інструментальны фальклор? Гэта, на мой погляд, даволі важны паказчык агульнай нацыянальнай культуры.

**Яшчэ я звярнуў бы ўвагу чытачоў на такую анамалію. Мы ўкладаем вялікія сілы ды сродкі ў тое, каб навучыць дзяцей у музычных школах граць на беларускіх народных інструментах — цымбалах, домры. А ў хаце, на вёсцы, іх не чуваць, нават назву часцей ужываюць — «мандаліна», бо гэты інструмент некалі быў даволі папулярны. Можна пачуць часам у двары балалайку, гармонік альбо баян. Ці не здарылася так, што мы і старыя, досыць багатыя традыцыі страцілі, і новых не набылі?**

**Я часам з жахам думаю: а што калі зноў прыйдзе «ўмацоўваць культуру» чарговы дзеяч з суседняе галіны (напрыклад, ведаў аднаго намесніка па транспарце на пасадзе старшыні мастацкага савета філармоніі) і дрыготкім ад пачуцця голасам пачне: «Давайце, хлопцы, пабудуем у нас «пеўчае поле» гэтак тысяч на 20 спевакоў ды пераробім музычныя школы на харавы ўхіл. Ды гадкоў праз 10 завязём тых дзяцей сюды, спяём патрыятычную песню — вось гэта будзе культура, Рыгу пераплюнем!»**

**А былі ж такія намаганні колькі гадоў таму. Ну і што? Славутага «поля цудаў» у Гомелі так і няма, харавыя школы спяваюць самі сабе, творчыя калектывы неяк не славяцца ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі. Рыга як спявала, так і пяе... Што датычыць скрыпкі, дык на сёлетнюю канферэнцыю скрыпачоў у Мінск прыехаў такі «буйны скрыпічны цэнтр», як Петрыкаў, ды яшчэ «назіральнік» з Гомельскага музвучылішча. Астатнія ці то спалохаліся маскоўскіх ды мінскіх прафесароў, ці то будуюць пеўчае поле... Ізноў мая Гомельшчына апынулася на першым месцы ззаду.**

Я не спецыяліст па фальклору і праблемах народнай музыкі. Магчыма, многае ўспрымаю занадта эмацыянальна і песімістычна. Але для маіх асабістых думак, выспелых на працягу многіх гадоў працы ў сістэме культуры, ёсць падставы...

## БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

Паспрабую засяродзіць увагу чытача на пытаннях, якія лічу галоўнымі ў рэчышчы сваіх развaг: сацыяльна - псіхалагічныя ўмовы жыцця і неабходнасць павелічэння ўзроўню эстэтычных патрэб дзяцей на сяле; навучэнцы вясковых (раённых) музычных школ і падрыхтоўка прафесійных кадраў; музыка і Чарнобыль. Наўмысна абмінаю тут пытанні, напрыклад, матэрыяльнага забеспячэння творчага працэсу ці моднага цяпер так званага «гаспадарчага разліку» і г. д. Пра гэта шмат, але безвынікова гаворыцца на самых высокіх узроўнях.

Канечне, слінкі цякуць, калі прафесар І. Бачкова расказвае пра відэатэку ў яе класе, пра магчымасць у любы момант запісаць на відэа выступленне яе вучня і зараз жа параўнаць яго з тымі ж творамі ў выкананні вядомага майстра. Але пакінем пакуль што дарэмныя мары ды вернемся на грэшную зямлю. А на ёй — тыповы райцэнтр, так званы «пгт» з насельніцтвам 12—15 тысяч, у якім тое, што само сабою зразумела для вялікага прамысловага і культурнага цэнтра, паўстае сур'ёзнай праблемай.

На жаль, я не знайшоў больш-менш сур'ёзнай навуковай распрацоўкі, якая б трактавала пытанні сацыяльных, маёмасных, нацыянальных, псіхалагічных асаблівасцей малых супольніцтваў, асабліва калі гэта датычыць пытанняў павышэння агульнага культурнага ўзроўню насельніцтва, павышэння ўзроўню эстэтычных запатрабаванняў і г. д. Часцей гаворыцца пра «паляпшэнне культурна-бытавога абслугоўвання», пры тым маецца на ўвазе, што «бытавое» значна важнейшае за «культурнае». Аднак можна сцвярджаць, што ўмовы жыцця і адпаведна псіхалогія грамадства ў буйных гарадах прыкметна адрозніваюцца ад такіх умоў на сяле (у мястэчку), што істотна ўплывае і на ўзровень эстэтычных запатрабаванняў жыхароў.

Напрыклад, у буйным цэнтры пераважная большасць людзей жыве ў больш-менш аднолькавых (стандартызаваных) кватэрах з аднолькавым узроўнем абслугоўвання. Пераважная форма маёмасці — рухомая. Нават дачныя ўчасткі не ўносяць карэнных перамен у псіхалогію гараджаніна: гэтая ўласнасць не мае характару матэрыяльнай асновы жыцця. Больш таго, праца на «фазэндзе» нясе і нейкі эстэтычны змест: канкурэнцыя малых архітэктурных формаў, вырошчванне экзатычных раслін, дэкаратыўнае раслінаводства і да т. п. Гараджанін жыве галоўным чынам на заробак ад сваёй асноўнай прафесіі. Пры гэтым для яго больш лёгкадаступнымі і разнастайнымі з'яўляюцца культурна - эстэтычныя каштоўнасці. Такім чынам, у буйных гарадах матэрыяльныя ды культурныя ўмовы жыцця прынцыпова роўныя.

Інакш на сяле. Пераканаўчая большасць жылога фонду тут складаецца з індывідуальных дамоў з прысядзібным участкам, свойскай жывёлай, пры адсутнасці сучаснай камунальнай гаспадаркі. Пераважная форма маёмасці — нерухомая. Значная колькасць жыхароў у мястэчках, незалежна ад прафесіі, штогод арандуе досыць вялікія, да 0,5 га, надзелы зямлі для вырошчвання кармавых культур і да т. п. Сацыяльны падзел менш прыкметны, чым у буйных гарадах, бо і рабочыя, і служачыя, навукова-тэхнічная і творчая інтэлігенцыя аднолькава звязаны з сельскай гаспадаркай, якая забяспечвае эканамічную аснову жыцця і значную частку агульнага даходу. Заработная плата ў гэтых умовах ужо не з'яўляецца галоўнай матэрыяльнай крыніцай. Але ўзамен людзі павінны больш сіл ды часу адрываць ад сваёй галоўнай справы, ад вольных вечароў, выхадных дзён... І тыя, хто жыве, як тут кажуць, «на этажах» — у дамах гарадскога тыпу, не выключэнне, бо звязаны са сваякамі з навакольных вёсак, так ці інакш працуюць на зямлі. Я ведаў работнікаў культуры, якія вырошчвалі па 6—7 тон бульбы ды буракоў, трымалі карову, 3—4 свінні... Практычнае самазабеспячэнне!

Калі глядзець на ўсё гэта як на «працоўнае выхаванне» — тут усё ў парадку. Але мяне цікавіць, як спалучыць занятасць вельмі здольных дзяцей у гаспадарцы (ва ўласнай — амаль штодзённа і месяц увосені — на саўгасных ці калгасных палетках) з задачай іх прафесійнай адукацыі, асабліва калі будучая прафесія звязана з мастацтвам? Яно ж вымагае поўнае аддачы сіл і часу!

Ёсць яшчэ невялікая, але прыкметная група насельніцтва — вайскоўцы ды іхнія сем'і. З іх у музычныя школы прымаецца нямала дзяцей, пры тым яны складаюць салідную частку т. зв. «прафесійна арыентаваных» ці найбольш працаздольных. Мне здаецца, прычына ў тым, што ў гэтых сем'ях лепшая, так бы мовіць, «цывілізаваная» дысцыпліна, лепшыя ўмовы для кантролю з боку бацькоў, большая зацікаўленасць і разуменне неабходнасці эстэтычнага выхавання дзіцяці і, на мой погляд, больш моцны генетычны патэнцыял.

**Аднак у сувязі з гэтым не магу не звярнуць увагу на падзел, што існуе паміж людзьмі ў правінцыйных мястэчках, складаны і невідавочны: «Свае — чужыя». Апроч вайскоўцаў, насельніцтва тут у асноўным сталае, карэннае, амаль усе жыхары, калі і не з'яўляюцца сваякамі, дык маюць вельмі моцныя пазаслужбовыя сувязі. Міграцыйных з'яў амаль няма, і кожны новы чалавек прыжываецца ў гэтай супольнасці вельмі цяжка. Часам патрабуюцца дзесяцігоддзі, каб навічка прызналі «сваім».**

**Ці не адсюль асаблівасць нашае кадравай палітыкі: лічыцца само сабою зразумелым, што спецыяліст пасля заканчэння навучальнай установы накіроўваецца ў родныя мясціны. Маўляў, ён едзе да бацькоў, яго не трэба забяспечваць кватэрай... Не ведаю, не ведаю. Па-першае, такі спецыяліст праз нейкі час пэўным шляхам усё ж дамагаецца асобнае кватэры. Часта пры гэтым скарыстоўваюцца памянёныя мною сувязі, дзейнічае і прынцып «ты—мне, я — табе». Па-другое, мы штучна адсякаем гэтых людзей ад магчымасці сягнуць на больш высокі ўзровень адукацыі. Тут увогуле прычына для роздуму наконт разарванасці цыкла нашай прафесійнай адукацыі, дзе абласное звяно не вельмі моцна звязана з цэнтральным, а раённае—з абласным. Па-трэцяе, такая кадравая палітыка яшчэ больш абмяжоўвае прыток «свежай крыві» ў маленькае мястэчка, а ў выніку яго інтэлектуальная частка ідзе да паступовай дэградацыі.**

У маім класе ёсць дзеці — прадстаўнікі ўсіх груп насельніцтва. І многія з іх, калі справа кранаецца пытанняў, звязаных з больш-менш складанымі эстэтычнымі праблемамі, праяўляюць той псіхалагічны настрой, што быў унесены ў іхні

інтэлект умовамі жыцця. Сялянскі практыцызм даведзены тут да мяжы магчымага. І крыўдна, што агромністая колькасць таленавітых дзяцей не можа рэалізаваць свае здольнасці, бо на пэўным этапе навучання ўзнікае эстэтычны бар'ер, які яны не здатныя пераадолець. У іх амаль няма эстэтычных запытанняў!

Тут мы сутыкаемся і з яшчэ адной асаблівасцю развіцця нашай культуры: другасным уздзеяннем «маскульта». Мы маем справу з дзецьмі тых бацькоў (зараз іхні ўзрост 28—35 гадоў), для значнай часткі якіх вышэйшым стандартам у музыцы з'явіліся «Яблоки на снегу» ды «Не сыпь мне соль на рану...», а музычная школа сталася зручным спосабам заняць вольны час сваіх дзетак.

Я памятаю часы, калі мы слалі праклён заходняму маскульту, залічаючы ў яго джаз. Але высветлілася, што мастацтва Эрала Гарнера, Элы Фіцджэральд, Элінгтана, Армстранга ці Ньюпарцкіх фестываляў у 60-я гады было школай густу ў галіне эстраднай музыкі. Эра свінгу дала свету мноства сапраўдных майстроў. Дзякуй Богу, у нас ёсць людзі, якія гэта добра разумеюць, напрыклад, дырыжор М. Фінберг, і стараюцца адрадзіць тое мастацтва. Але ў большасці выпадкаў захоўваецца арыентацыя на прымітыўны ды непераможны «кассовый массовый лай».

Спробы прабіцца праз усе напластаванні бруду да пачаткаў эстэтыкі даюцца неверагодна цяжка. Справа ўскладняецца агульнай абмежаванасцю культурнага жыцця ў мястэчках. Напрыклад, у Петрыкаўскім раёне мастацтва прадстаўлена пераважна гастралёрамі-экстрасенсамі, 2—3 разы ў год прыязджае лекцыйная група Гомельскай філармоніі ды 1—2 калектывы акадэмічнага напрамку з абмежаванай колькасцю канцэртаў.

Праўда, даволі актыўна дзейнічае мясцовы аркестр народных інструментаў (кіраўнік М. Будзюхін), рэгулярна падае матэрыялы на культурна-эстэтычныя тэмы раённая газета «За новыя рубяжы», мясцовае радыё (рэдактар В. Герасіменка). З дапамогаю Саюза кампазітараў Беларусі (Л. Мурашка) пачаў дзейнічаць культурна - эстэтычны цыкл пры Петрыкаўскім РДК: ужо адбыліся сустрэчы з беларускімі кампазітарамі, з прафесарам БДК І. Цвятаевай. На жаль, пакуль што гэтая дзейнасць нерэгулярная і асаблівых вынікаў не дае.

Мне здаецца, адзіны перспектыўны напрамак дзеяння — падрыхтоўка мясцовых прафесійных кадраў прынцыпова вышэйшага ўзроўню. Метад такой падрыхтоўкі ёсць: стварэнне ліцэяў. Праўда, тое, што можа Мінск (ліцэй пры БДК, школы-інтэрнаты), сельскі райцэнтр «не пацягне». Значыць, трэба адкрываць філіялы, нават асобныя класы там, дзе для гэтага ёсць неабходныя ўмовы. Мне здаецца, такія ўмовы ёсць і ў Петрыкаве.

Паводле маіх назіранняў, дзеці, якія навучаюцца паралельна ў агульнаадукацыйнай ды музычнай школах, практычна пазбаўлены магчымасці прадукцыйна працаваць з-за перагрузкі, тыднёвая занятасць такога школяра дасягае 60—64 гадзіны. Трэба адбіраць групы «элітных» па здольнасцях дзяцей і ствараць ім умовы для сапраўднай спецыялізацыі ў адзінай школе (класе, філіяле) эстэтычнага напрамку. У сістэме Мінкульта існуюць спецпраграмы для ліцэяў і велізарны вопыт індывідуальных заняткаў. У сістэме народнай адукацыі — не меншы вопыт групавых заняткаў і непараўнальна мацнейшая матэрыяльная база. Трэба тэрмінова аб'яднаць намаганні абодвух міністэрстваў і стварыць спецыялізаваныя групы па падрыхтоўцы гарантаванае якасці абітурыентаў для музычных і педагагічных сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў.

Асаблівую праблему ставарае ў нас спадчына чарнобыльскай катастрофы. З раёнаў, закранутых ёю, дзеці рэгулярна выязджаюць на так званае аздараўленне. Гэта цудоўна. Але ўявіце сабе маё, настаўніка музыкі, становішча: вучань адрываецца ад працы ў класе часам 2—3 разы на год. Штораз пасля вымушанага перапынку я павінен 15—20 дзён уводзіць дзіця ў творчую форму. Гэта ж гарантаванае адставанне вучня ад агульнага ўзроўню падрыхтоўкі!

Трэба было б высветліць: аздараўленне — гэта магчымасць на працягу месяца кінуць заняткі па спецыяльнасці ці патрэба аддалення дзяцей ад забруджанай зоны? Калі другое, дык трэба стварыць магчымасць для працягу заняткаў на месцы аздараўлення дзяцей. Не так ужо складана сабраць юных музыкантаў у адну групу, а там — або дамовіцца з мясцовай музшколай, або адправіць у камандзіроўку адпаведных спецыялістаў ад нас, разам з дзецьмі. Інакш мы губляем будучых спецыялістаў для той зоны, куды ўжо цяпер ніхто не хоча ехаць працаваць.

Не вырашыўшы гэтую праблему, мы атрымаем дадатковае зніжэнне тэмпу навучання, невыкананне праграм, страчаную перспектыву. Вынік — яшчэ больш нізкі прафесійны ўзровень і — кола замкнецца: мой недавучаны хлопец не праб'ецца з вучылішча ў кансерваторыю і будзе вымушаны вярнуцца дамоў, каб рыхтаваць чарговыя пакаленні недавучак. Можна, канечне, суцешыцца «парадай» некаторых калег: «Чаго ты пнешся, наша школа — непрафесійная (?!)»

Гадоў з 30 таму, абгаворваючы такую сітуацыю з маім настаўнікам М. Д. Браценнікавым, я запытаўся: «А што далей?» І пачуў у адказ: «Далей — будзе канкурэнцыя». Дарагі мой прафесар Мікалай Данілавіч! Мы абодва памыліліся: не надышла тут канкурэнцыя і не будзе яе, бо не колькасць настаўнікаў стварае канкурэнцыю, а зусім іншыя акалічнасці.

Але пра гэта — далей.

## НАСТАЎНІКІ

Так, здаровая, цывілізаваная канкурэнцыя дапамагла б нам разарваць зачараванае кола, у якім апынулася наша культура, у тым ліку і музычная адукацыя. Але для стварэння канкурэнтных адносін у нашай галіне трэба рашуча мяняць прынцыпы аплаты працы настаўнікаў. Простае павышэнне заработнай платы — не той шлях. Да тае пары, пакуль застаецца некранутай пагадзінная аплата ды «ўраўнілаўка», ні пра што істотнае немагчыма размаўляць.

Пакуль што мы аплачваем кожнаму славутыя дзве ці паўтары стаўкі, практычна незалежна ад якасці працы. Я ведаў настаўнікаў, у якіх на працягу некалькіх гадоў запар не было выпускнікоў, хоць у 1—5 класах мелася па 3—4 вучні. Прыкладна на ўзроўні 5—6 класа дзеці кідалі музшколу. І нічога, настаўнік справўна атрымліваў грошы за 30—35 гадзін, ды яшчэ прырабляў дзесьці на вяселлях. Потым ён з'язджаў у абласны цэнтр на белым кані — «Жыгулях».

А трэба, каб за аднолькавую колькасць працы настаўнікі атрымлівалі **розныя** грошы — у залежнасці ад якасці і канчатковых вынікаў работы. Стартавыя магчымасці павінны быць аднолькавыя, а далей — хто так і застанецца «на старце», а хто шпарка пойдзе ўперад. На жаль, пакуль нашы дзяржаўныя ўстановы не гатовыя да такой рэформы, пра што і паведаміў на нядаўняй нарадзе прадстаўнік Міністэрства культуры БССР.

Я не магу сказаць, што нашы настаўнікі такія ўжо метадычна бездапаможныя. Амаль кожны можа працаваць з дзецьмі на добрым узроўні. Хутчэй можна гаварыць, што не створаны ўмовы, пры якіх настаўнік не мог бы працаваць інакш, чым з поўнай прадукцыйнасцю. На жаль, для вельмі вялікай часткі не існуюць такія паняцці, як «самаадданасць», «фанатызм» і іншыя — з эмацыянальнай сферы. Адзін з кіраўнікоў Гомельскай філармоніі казаў: «Памятай, што за недахопы ў прафесійным узроўні артыстаў альбо праграм з пасады не здымаюць. Здымаюць за фінансавыя парушэнні». Нешта падобнае існуе і ў галіне музычнай адукацыі. Найбольш цяжкі грэх знойдуць у «няправільным» раскладзе заняткаў, у вядзенні дакументацыі і да т. п.— толькі не ў якасці навучання, ва ўменні вучня граць, любіць сваё і паважаць чужое мастацтва. Адсюль і незацікаўленасць у выніках працы, ва ўласнай самаадукацыі, творчай актыўнасці настаўнікаў.

Праўда, ёсць у нас «творчыя» стымулы да паляпшэння вынікаў працы. Напрыклад, так званыя «агляды-конкурсы творчай і метадычнай працы выкладчыкаў ДМШ». На апошнім такім конкурсе мне «пашанцавала» зрабіцца пераможцам у групе салістаў-скрыпачоў (Гродна, 88 г.). Гонар, скажу я вам, і грамата, ізноў жа вялікая: 50×30 сантыметраў. З пячаткаю...

Ганьба! — кажу я і саромлюся сваёй «перамогі» ды стараюся як мага менш успамінаць пра яе. Некалі, у 64-м, я таксама перамог на Рэспубліканскім конкурсе маладых выканаўцаў. Дык там давялося ў трох этапах граць 4 скрыпічныя канцэрты, у тым ліку і А. Глазунова, П. Чайкоўскага, Чакону І.-С. Баха ды шмат яшчэ чаго. А тут... Абышлося дзвюма мініяцюрамі. Як жа магло стацца, што мяне, 50-гадовага, хворага чалавека, не «выбілі з сядла» маладзейшыя, амбітныя, са свежай падрыхтоўкай канкурэнты?

Прызнаюся, узяў удзел у конкурсе так, «для адчэпнага», падрыхтаваўшы за тыдзень са старога рэпертуару тое, што было да душы. Пазней былы інспектар упраўлення культуры В. Аляшкевіч растлумачыў: «Я, маўляў, цябе вылічыў па тэлефоне. Абзваніў астатнія вобласці, даведаўся, што больш ніхто скрыпачоў не выстаўляе. Нэм грамата гарантаваная». Вось дзе сабака закапаны!

На закрыцці конкурсу з гонарам гаварылася, што на пачатковым этапе ўдзел у ім узялі больш за 6 тысяч музыкантаў. Якая ж сіла вялікая! Дык як жа атрымалася, што ў канцы знайшоўся адзін скрыпач — сам сабе пераможца, адзін альтыст, адзін дамрыст; усяго каля 10 салістаў ды некальні ансамбляў. Усё! Затое кожная вобласць, не шкадуючы грошай, прывезла вялікія зборныя аркестры па 50—70 чалавек. Нават фармальна не ўмяшчаецца такі аркестр у назву і сэнс конкурсу, бо прадстаўляе не адну школу, а цэлы паўмільённы горад. Ды і замацаваны за гарадскім аддзелам культуры, пэўна, забяспечаны штатным кіраўніком. «Не ад таго ключа дзірка»...



Гарманісты.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

Навошта ж гэткая паказуха? Мэтай конкурсу мае быць рэальнае адлюстраванне творчай работы ў кожнай асобнай школе. Вось з Навагрудка прыехаў невялікі аркестр-ансамбль, дык зразумела, на што здатная школа: і працу людзей відаць, і слухаць прыемна. А школы, дзе хапіла б настаўніцкіх сіл на ўтрыманне паўнаскладнага аркестра, — ніводнае такой школы на Беларусі пакуль няма. Дык не трэба і раздзьмуваць лічбы.

І яшчэ. Не разумею я той часткі конкурсу, якая называецца «метадычнай». Гэта фактычна паказ больш ці менш прыгожа аформленых канспектаў знаных метадычных распрацовак. Канспект і ёсць канспект, чаго яго выстаўляць у конкурсе? Хопіць раённага метадычнага кабінета для яго ацэнкі.

Надыходзіць чарговы агляд-конкурс. Раней я прапаноўваў і цяпер паўтараю: узнагароджваць канкурсантаў толькі пры наяўнасці не меней як 3-х чалавек на кожным з інструментаў (жанраў); кожная вобласць павінна выстаўляць хоць аднаго выканаўцу па кожным з наяўных інструментаў; «зборныя» аркестры на конкурс не запрашаць, замяніць іх рэальна дзеючымі на базе **адной** школы; конкурс «канспектаў» перанесці як абавязковую форму самаадукацыі настаўнікаў — у веданне методкабінетаў; на рэспубліку пакінуць конкурс рэпертуарных апрацовак, партытур, тэматычных лекцый-канцэртаў — усяго, што рэальна ўзбагачае творчасць выкладчыкаў і іхніх вучняў. І абавязкова публікаваць працы пераможцаў.

Прапаную таксама ў міжконкурсны перыяд ладзіць гастролі пераможцаў у форме гала-канцэртаў, пераважна ў сельскіх райцэнтрах, шырока абвяшчаючы пра гэта ў друку, эфіры. І яшчэ — знайсці магчымасць матэрыяльна заахвочваць пераможцаў і абавязкова — абвяшчаць падзяку на ўзроўні не ніжэй як аблупраўлення культуры.

Існаваў не так даўно гнілаваты лозунг: «Няма дрэнных вучняў, ёсць дрэнныя настаўнікі». Трэба глыбей яго закапаць, а настаўніку даць пачуццё годнасці, гонару за сваю працу і забяспечанае жыццё.

●

Многа пра што можна было б паразважаць наконт спраў музычных у глыбіні Палесся.

Днямі прыйшла вестка: скарачаюць бюджэт школы. Забараняецца дапоўніць тыдзень факультатыўнымі дысцыплінамі. Скарачаецца праца канцэртмайстра ў класе—да аднаго месяца перад экзаменам. Ласкава дазволена самастойна набіраць вучняў у колькасці да тых самых дзвюх ставак (цікава, ці ўяўляе сабе той «добры» чалавек, што такое 40—48 гадзін індывідуальных заняткаў па спецыяльнасці?)

Скарачаюць яшчэ сёе-то... Ну, добра: свой клас я ўвечары сам памыю, такі клопат. Горш іншае: яшчэ радзей будуць выступаць мае дзеці перад сваімі таварышамі ў горадзе...

Прымяраю я, як той сталяр, сваю раму ў пройме, і так і гэтак павярну. Ужо і малатком падбіваю ды цяслом падчэсваю там-сям. Не лезе, праклятая, вушакі крывыя.

Ці не давядзецца раскідваць усю хату?

Андрэй ЯЎТУХОВІЧ,
скрыпач, выкладчык Петрыкаўскай ДМШ.

# ТОЙ ІНШЫ РАНАК НАДЫХОДЗІЦЬ...

## З майстэрні Заіра Азгура



Бывае, Маэстра яшчэ на золку пераступае парог майстэрні. Карціць разгарнуць мокрую гліну і пракладаць па ёй аблічча таго чалавека, які зацікавіў, штосьці адкрыў, увёў у нейкі новы свет, зрэшты, здзівіў. Сёння заспеў Маэстра каля станка, на якім робіцца пластычна абрыс Максіма Багдановіча. Не такі, які мы бачым на помніку ў Місхоры, што зроблены з бронзы ў 1957 годзе, — новы.

— Ведаеш, ён мяне здзіўляе амаль кожны раз, калі я разгортваю яго томік, — тлумачыць Маэстра. — Якое харaство радка! І такая заўжды дапытлівая і жывая думка. Паслухай хоць бы гэта: «Халодным розумам прыняўшыся, натхненне ён мусіў тым губіць. Сальеры ў творчасці ўсё хацеў паняць, ва ўсім упэўніцца, усё абмеркаваць, абдумаць спосабы і матар'ял, і мэту, і горача любіў сваю свядомасць гэту. У творчасці яго раптоўнага няма: аснова для яе — спакойная дума...»

Чаму менавіта гэты верш — «Ліст...» — закранае нешта ў душы Маэстра сёння, у наш галаслівы і мітуслівы час? Вабіць ухваленне ўпэўненага рамяства Сальеры? Абуджае павагу гэты піетэт перад «спакойнай думай» мастака?

— Дарэмна ты пацiскаеш плячыма, — кажа Маэстра. — Паэт паглыбляецца ў спрадвечную загадку творчасці. Шукае раўнавагі паміж халодным разлікам мастака і ягоным творчым парываннем. Гэта надзённа і цяпер. Ты ж сам ведаеш, як і дасюль драматычныя артысты даюць прыклады перавагі ў творчасці то халоднага назіральнага розуму, то памоцартаўску захопленай эмацыянальнасці. Разлік і прыстасаванне або натхненне і поўнае паглыбленне ў вобраз? Багдановіч і пра гэта думае ў сваім «Лісце...» трынаццатага года, а мы жывём у век інтэлектуальнай прагі «ўсё паняць, ва ўсім упэўніцца, усё абмеркаваць». Таму я раблю Багдановіча з шырока разгорнутымі плячыма. Нібы акрыленага. Нават постаццю сваёй паэт спрачаецца з уласным меркаваннем наконт абсалютнага хараства «халоднага розуму» ў творчасці...

Я хацеў было сказаць, што і сам Заір Азгур зведаў тую супярэчлівасць, якая прымушае мастака, з аднаго боку, горача перажываць захапленне той асобай, якая стала прадметам ягонага мастацкага даследавання і ўвасабляецца ім у мармуры або бронзе, а з другога — без свядомага разліку не абысціся: памеры, матэрыял, кампазіцыя, будучае месца для дэманстрацыі статуі, парады заказчыка ці пакупніка... Ці ж гэта «спакойная дума», пра якую сказаў Багдановіч! Яго вялікасць разлік... А творчасці часта замінае гэты разумовы і сістэматызаваны падыход да ўвасаблення задумы.

— Я па-рознаму стаўлюся да сваіх работ, — прызнаецца Маэстра. — З цягам часу некаторыя з іх робяцца для мяне амаль што прыкрымі, бо мне ж самому яны паказваюць, дзе я быў *рамеснікам* і ілюстратарам, у чым ішоў за схемай і разлікам. А цешаць маё мастакоўскае сэрца партрэты тых, *каго я спазнаў* уласным сэрцам, палюбіў або, наадварот, зразумеў, як хіжых палітыкаў. Калі ты толькі назіраеш збоку, толькі разумова асэнсоўваеш страсці, штосьці застаецца і ў партрэце недаказаным, неразгаданым, схаваным...

Супярэчнасць, пра якую гаворыць Маэстра, спакваля і адчувальна выяўлялася, як я памятаю, яшчэ ў скульптурным партрэце Саламона Міхоэлса, зробленым адразу пасля вайны. Каля яго завіхаліся гледачы і госці майстэрні; уголас, а часцей — цішком, спрачаліся. Што ж гэта? Ілюстрацыя да тэмы інтэрнацыянальнага адзінства людзей: яўрэй з чэрапам мудраца і вачыма добрага бацькі трымае на руках немаўля-«нігера»; семіт калыша і люляе дзіця негроіднай расы. Або вобразнае ўвасабленне спрадвечнага болю чалавецтва: паразумецца паміж сабою без забабонаў і прымхаў могуць толькі старыя і дзеці, усім астатнім людзям наканавана варожасць... Да таго ж кампазіцыя, зробленая З. Азгурам, аднаўляла вядомы кінакадр з вельмі папулярнага тады фільма «Цырк».

*І сам Маэстра, здаралася,* падоўгу ўглядаўся ў тую скульптуру, то ўсцешаны і задаволены, то ўстрывожаны і набычаны. Калі ж С. Міхоэлс быў абвешчаны ворагам нашай дзяржавы, агентам міжнароднага сіянізму, ледзь не штатным супрацоўнікам імперыялістычных разведак, гэты скульптурны партрэт кожным ранкам уладарна прыцягваў да сябе, прымушаў думаць. Маэстра бачыў на сцэне лепшыя тэатральныя вобразы, створаныя гэтым артыстам, пачынаючы з караля Ліра і канчаючы Веніямінам Трэцім. Не раз гутарыў з ім вока ў вока аб прызванні чалавека і ягоным абавязку перад людзьмі і Богам. Піў з ім гарэлку, узнімаючы тосты за дружбу і любоў, што запануюць на ўсёй зямлі. А яны запануюць, і мастацтва спрыяе гэтаму. Дуэтам спявалі песні хасідаў, якія славяць Усемагутнага Творцу спевамі з чароўнай экзальтацыяй... *І раптам* — агент і найміт, нават рэзідэнт чужой разведкі! Ці ж магчымы такі камуфляж: «халодным розумам» *спалучыць* у сабе неўтаймаванага артыста - мастака, артыста-блазна і разважлівага падрыўніка існуючага палітычнага ладу, кіраўніка розных віжуноў і дыверсантаў... Гэта не магло ўкласціся ў свядомасці! Вось жа ён, шчыры і разумны, чулы і тэмпераментны, сардэчны і кампанейскі — Саламон Міхайлавіч, з якім ты адчуваў сябе багацейшым і святлеў душой. Мана! Ды пішуць жа пра здрадніцкую дзейнасць славутага артыста самыя аўтарытэтныя газеты на чале з «Праўдой», якая з'яўляецца рупарам «розуму, гонару і сумлення нашай эпохі». Друкаванаму слову мы прывычаіліся верыць цалкам і канчаткова...

Аднае раніцы паблізу ад майстэрні спынілася чорная «Победа», і на парозе Маэстра ўбачыў старога знаёмага. Віцябляніна. А віцябляне-землякі сябруюць з Маэстра асабліва шчыра. Праўда, візіт занадта ранаваты. Да таго ж госць мае пасаду сакратара ЦК кампартыі Беларусі.

Маэстра здагадаўся, што гэта не выпадковы візіт.

Госць у скураным паліто. Фуражку не здымае. Гаворыць, не зводзячы вачэй з Маэстра. Маўляў, я зараз ужо ў камандзіроўцы, недзе далёка ад Мінска, а да цябе завітаў мімаходзь, бо ты павінен зразумець... Адным словам, сказала тая важная асоба ў скураным паліто, калі ты, Заір, не знойдзеш выйсця, якім чынам табе самому пазбавіцца... пазбавіцца гэтай тваёй работы... сам ведаеш... тады я не ўпэўнены, што здолею прывітацца з табой асабіста, вярнуўшыся з камандзіроўкі ў Мінск... Такі час...

Схамянуўся Маэстра ад рэзкага гуку аўтамабільнага матора на Усходняй вуліцы. Яму здалося, што ранак раптам абрынуўся чорным вечарам. І сярод скульптурных партрэтаў, статуй, кампазіцый, помнікаў, што нібыта акружылі яго ў майстэрні, толькі ён выпраменьваў нешта. Новае. Не тое, што раней. І глядзець на **я г о** Маэстра не мог, і не было сіл адвесці позірк убок. Над шкляным дахам прайшло кудысьці на паўночны захад сонца. Маэстра запаліў электрычнасць. Ды толькі гэты суцэльны змрок, сярод якога быццам бы свяціўся ён, заставаўся нерухомы. Як цішыня. Як каменне.

Наступным ранкам, здаецца, увесь Мінск ведаў: статуя Міхоэлса разбіта ўшчэнт самім Маэстра. Чаго толькі ні казалі! Спалохаўся і адракаецца ад здрадніка, найміта «Джойнта»! Зрабіў грамадзянскі ўчынак, ачысціўшы майстэрню ад гэтага яўрэйскага віртуоза падманаў!.. Якое кашчунства — узняць руку з молатам на аблічча таго, з кім падзяляў застолле і жыццёвы поспех! Гора, калі такое робіцца на свеце, калі на такое штурхае час!.. Чуткі і меркаванні перакрыжоўваліся.

І амаль пяты дзесятак гадоў абгаворы жудаснай расправы Маэстра з уласным мастацкім творам **т а к о г а** гучання і зместу лунаюць вакол З. Азгура і ягонай майстэрні (цяпер яна на новым месцы— паблізу ад Свіслачы, у раёне вуліцы Пуліхава). Нават самыя гарачыя прыхільнікі яго мастацтва, ягонай адданасці класічнаму рэалізму, самыя ўзрушаныя паклоннікі яго таленту, то самі робяць тую прыкрую заўвагу, то прыслухоўваюцца да яе: «А калі выкрывалі так званых касмапалітаў у мастацтве і агентаў сіянізму, Маэстра сам... сваёй непахіснай рукой... ушчэнт...»

Сам?

А той візіт сакратара ЦК камуністычнай партыі Беларусі, партыі, якая тады кіравала ўсім і ўсімі ў краіне?.. Папярэджанне добразычліўца, што рызыкуе ўласным становішчам, каб захаваць рэпутацыю *прыстойнага* ў вачах і сапраўды ж выдатнага таленту? Своеасаблівы выклік калегам, якія ў кабінетах *памнажаюць і памнажаюць* спісы «ворагаў народа»? Імкненне хоць бы так адцурацца ад таго граху, што па *сённяшні дзень ляжыць* праклёнам на тагачасных мінскіх уладах і праваахоўніках, якія дапусцілі і забяспечылі тэрарыстычны *акт супраць* С. Міхоэлса, забойства на бязлюднай вуліцы паблізу ад стадыёна «Дынама»?..

Мне давялося бачыць, з якім імпэтам працаваў Заір Азгур над новым увасабленнем таго аблічча, на якое некалі ён сам зрабіў замах і разбурыў, страціўшы самакантроль: Маэстра і дасюль не можа прыгадаць хоць якія-небудзь падрабязнасці тае начы, калі заставаўся сам-насам з Міхоэлсам...

Завіхаючыся каля станка з глінай, а потым з гіпсам, Маэстра *нешта гаворыць і гаворыць.* Ціха. Самому сабе. Часам узнімае голас. Тады я чую:

— На вяршыні трыумфа, пасля прэм'еры «Караля Ліра» ў Яўрэйскім тэатры, адзін з яго вучняў у *натоўпе, што він*шаваў артыста, — дыпламатаў, пісьменнікаў, дзяржаўных дзеячаў, сяброў — трымаўся ўбаку, і пазней, калі Міхоэлс у адзіноце пачаў сціраць з твару грым, спытаў, а чаму ж ён такі сумны? Стаміўся? Ведаеш, што адказаў яму Саламон Міхайлавіч? «Няўжо ты не разумееш, што пасля такога поспеху артыст непазбежна пачынае свой шлях у дол. Мой Лір — гэта *перавал праз* хрыбет вяршыні, другой такой мне ўжо ніколі не адолець. Вось чаму мне балюча і сумна, дружа...» Ён разумеў свой сум. Яму было крыўдна, што для людзей па-ранейшаму каштоўней, даражэй звонку пазалочаны гліняны чарапок, чым сапраўднае золата, запэцканае граззю. А мо прадчуваў нешта ў сваім лёсе?.. Не, я ж памятаю, як ён спяваў: «І надыдзе іншы ранак...» Не ведаў — які ён будзе... Вось і для мяне надыходзіць іншы ранак, і я вяртаюся да **я г о**...

Маэстра не абрывае аповяд. Гаворыць, што ў Міхоэлса быў *скульптурнай выразнасці* талент. Як ён агортваў далонямі сваё сэрца, нібы яно выйшла з грудзей на паверхню, і шаптаў: «Цішэй, цішэй...»! Часам ягоныя жэсты ў ролі караля Ліра былі і не зусім эстэтычныя, бо выяўлялі раз'юшаны і ўладны характар, але і тут, на вачах гледачоў, нараджаўся цуд мастацтва — з гэтых грубых і нават вульгарных жэстаў, з крыклівых інтанацый і нязграбных поз паўставаў бездакорна чысты мастацкі вобраз з глыбокім сімвалічным зместам.

Я здагадваўся, што Маэстра разважае аб тым, *што яго* самога хвалюе цяпер і па-рамесніцку. Ці атрымаецца партрэт Міхоэлса такім, якім ён мроіцца, якім задуманы?

На мой погляд, атрымаўся. Праўда, і ў гэтыя дні я, здараецца, стаю каля скульптуры разам з наведвальнікамі майстэрні. Адны ўголас, другія паціху выказваюць свае ўражанні-меркаванні. Адзін кажа, што Міхоэлс тут адно толькі трымае дзіця на руках, каб яно не звалілася, а сам у думках недзе далёка, у планетарных абсягах. Другі *абвяргае:* ён паглыблены ў думу пра лёс маленькага чалавека, які так даверліва прыпаў да яго і зусім не падазрае, што яны — людзі розных рас, што ў гэтую самую гадзіну іхнія аднаверцы, магчыма, бязлітасна варагуюць паміж сабой, пагражаюць адзін аднаму вайной. Думае Міхоэлс так, і вочы яго агортвае туга ад бяссільных намаганняў мастацтва перайначыць свет, каб не было ў ім варожасці, якая перш-наперш заўсёды пагражае малым дзецям, пагражае Будучыні.

Зноў тыя ж спрэчкі, што і каля ранейшай скульптуры; ці гэта ілюстрацыя да пэўнай задумы Маэстра, ці па-мастацку вобразнае ўвасабленне блізка знаёмага аднадумцы, партрэт з пэўным сімвалічным абагульненнем? Тыя ж, што былі тады, у сорак восьмым і сорак дзевятым. Не дай Бог, калі аднае раніцы і ля гэтай майстэрні спыніцца якая-небудзь «Волга» з нязваным госцем-вестуном, як гэта здарылася сорак з лішкам гадоў назад на Усходняй вуліцы ля майстэрні саракагадовага тады Азгура. Ратуй нас ад такога!

**Барыс БУР'ЯН.**

Фота Ул. КРУКА.

# РЭЛІГІЯ І МОВА

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук.

## 8. БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ — СТАТУС ЛІТУРГІЧНАЙ

Рэзкае звужэнне ў пасляваенныя дзесяцігоддзі маштабаў рэлігійнага ўплыву на масы, з аднаго боку, істотныя дэфармацыі ў міжнацыянальных адносінах — з другога, калі на шлях глабальнай дэнацыяналізацыі практычна стала ўсё грамадскае жыццё, не збочыць сюды не магла і рэлігія, хоць яна і была адлучана ад дзяржавы. Толькі эпізадычна мог хтосьці са святароў у хвіліну горкага расчаравання за будучы лёс роднага народа правесці службу на беларускай мове. Гонар, вялікі гонар тым, хто так ставіўся да вядзення богаслужэння! Смела, на поўныя грудзі загаварыў з Усявышнім у год смерці «бацькі ўсіх народаў» на роднай беларускай мове ксёндз з Валожыншчыны Уладзіслаў Чарняўскі. Аднак яго замілаваную беларускую гаворку з Богам чула толькі невялічкая купка каталіцкіх вернікаў, і гэта не ратавала царкву ў цэлым ад яе далейшай і немінучай дэнацыяналізацыі. І гэта бадай што нікога з нацыянальна свядомых беларусаў асабліва не хвалявала, бо куды большымі былі страты ў іншых сферах нашага нялёгкага жыцця, асабліва ў народнай асвеце, навуцы, самой мастацкай культуры. Толькі адданыя нацыянальнай ідэі служыцелі прыгожага пісьменства, нібы пасланцы Праметэя, не здавалі пазіцый, напаміналі кожны год сваімі новымі творамі беларусу, што ён беларус і павінен заставацца такім, пакуль існуе жыццё на планеце. Сучасная, хоць далёка і не карэнная перабудова ўсіх сфер нашага жыцця, рашучыя спробы гуманізаваць і дэмакратызаваць міжнацыянальныя адносіны прынеслі з сабой, здаецца, канчаткова згубленую многімі беларусамі надзею на выратаванне, рэальную магчымасць на заваяванне права называцца самабытным і самастойным этнасам.

Нацыянальна-духоўнаму адраджэнню народа павінны ўсе сферы яго грамадскага жыцця і, вядома ж, царква. І незразумела, чаму пасля стольк іх гадоў пошукаў эфектыўных сродкаў нацыянальна-культурнага адраджэння беларускага народа мы пакуль што ўсур'ёз не скіравалі свайго позірку на царкву. Сусветная ж практыка народаў, у тым ліку і суседняга нам рускага, дае безліч пераканаўчага матэрыялу, што на крутых пераломах гісторыі царква з'яўлялася ледзь не адзінай сілай, здольнай прынесці выратаванне нацыі, а ў мірны, адносна спакойны час быць найважнейшым сродкам фарміравання этнічнай самасвядомасці людзей, паглыблення працэсаў нацыянальнай кансалідацыі.

Наспелая праблема рэарганізацыі рэлігійнага жыцця на Беларусі — адна з найбольш складаных і таму павінна вырашацца з прыцягненнем самага шырокага кола дасведчаных і кампетэнтных людзей. Мне ж хацелася б пагаварыць толькі пра месца нацыянальнай беларускай мовы ў дзейнасці ўсіх відаў канфесій нашага краю (а ўсяго іх восем), бо гэта вельмі часта было ахілесавай пятой у іх практыцы. Улічваючы непараўнальную ні з чым ролю мовы ў нацыянальнай кансалідацыі, мяркую, што і ў практыцы сучаснай праваслаўнай і каталіцкай цэркваў Беларусі тут павінны адбыцца — і як мага хутчэй — карэнныя перамены. Без увядзення беларускай мовы ў богаслужэнне ні тая, ні другая царква не будзе адпавядаць нацыянальным інтарэсам карэннага насельніцтва рэспублікі, наадварот, будзе толькі садзейнічаць далейшаму размыванню яго этнічнай самасвядомасці, г. зн. штурхаць беларускую нацыю ў апраметную.

Прыклад у адпраўленні службы на беларускай мове павінна ў першую чаргу паказаць праваслаўная царква, бо менавіта яна нясе адказнасць за ліквідацыю беларускай нацыянальнай уніяцкай рэлігіі. Вядома, што ў паасобныя часы сваёй гісторыі руская праваслаўная царква даволі паважліва ставілася да этнічных запатрабаванняў беларускага народа, які плаціў ёй сваёй узаемнасцю, трывала трымаўся за яе каноны.

Заканчэнне. Пачатак у №№ 29, 31—35.

І ў цяперашні архіскладаны час беларускага адраджэння гэты так моцна пакрыўджаны лёсам народ заслугоўвае, каб руская праваслаўная царква задавальняла яго рэлігійныя патрэбы не на царкоўнаславянскай і рускай мовах, а на яго роднай беларускай мове.

**Набыты намі горкі гістарычны вопыт пераканаўча паказвае, што толькі стварэнне рэальных умоў для засваення слова Боскага на роднай мове беларусам можа з'яўляцца галоўным накірункам у адраджэнні, далейшым фармаванні духоўна-рэлігійнага жыцця ў нашым краі. Умовы ж стануць рэальнымі толькі тады, калі мы забяспечым выданне беларускамоўнай рэлігійнай літаратуры для ўсіх канфесій, у належнай ступені забяспечым ёю цэрквы і касцёлы, іх вернікаў. Са свайго асяроддзя наша інтэлігенцыя павінна вылучыць сваіх Кірылу і Мяфодзія, нарадзіць яшчэ аднаго Францішка Скарыну, бо ў пытаннях нацыянальнай рэлігіі мы практычна стаім перад вырашэннем тых самых задач, што і ў часы нашага слыннага асветніка і друкара. Адзіная мова набажэнства ў праваслаўных і каталіцкіх храмах нашага краю—беларуская — дапаможа пазбегнуць раз'яднання яе носьбітаў на дзве часткі, што ўжо доўжыцца цягам колькіх стагоддзяў і перашкаджае кансалідацыйным працэсам у жыцці беларускай нацыі.**

**Вядзенне службы ў праваслаўнай царкве на беларускай мове вынікае яшчэ і з таго, што апошняя, як ніякая іншая з усходне-славянскіх моў, увабрала і захавала па сённяшні дзень шмат слоў са старажытнарускай. Беларуская мова заслугоўвае пашаны, бо ў ёй найбольш выразна бачацца сляды агульнага мінулага беларускага, украінскага і рускага народаў. Праваслаўная царква заўжды вызначалася вялікай прыхільнасцю да старажытнарускіх духоўных традыцый, чуйна прыслухоўвалася да запатрабаванняў простых людзей, чым ёй удавалася здабываць шырокую папулярнасць у гушчах народа. Добра вядомыя таксама выпадкі, калі ў сярэднявеччы розныя творы Святога Пісання перакладаліся з царкоўнаславянскай на больш зразумелую для таго ці іншага народа родную мову, у тым ліку і на беларускую. Пераход на беларускую мову богаслужэння ў праваслаўнай царкве з'явіцца новым доказам яе павагі да гістарычных і нацыянальна-культурных традыцый сваёй паствы.**

Раўналежна з узвядзеннем беларускай мовы ў практыку богаслужэння праваслаўнай царквы патрэбна значна лепш, чым да гэтага, паклапаціцца пра пашырэнне данага найважнейшага кампанента нашай культуры і ў іншых сферах канфесійнага жыцця. Даўно наспеў час прыступіць да масавага выдання на ёй рэлігійнай літаратуры, арганізацыі ўсяго выхаваўча-навучальнага працэсу ў Мінскай духоўнай семінарыі, у створаных пры цэрквах нядзельных школах. Проста дзіўна, што народ, слынныя сыны якога Францішак Скарына і Васіль Цяпінскі першымі сярод усходнеславянскіх народаў пераклалі на родную мову «Біблію» і «Евангелле», цяпер можа мець гэтыя рэлігійныя і палітоўныя кнігі толькі на рускай, польскай ці іншых мовах. Сёння на 1850 мовах свету выдаюць і чытаюць кнігі Свяшчэннага Пісання, але толькі не на сучаснай беларускай. Каб яшчэ лепш убачыць і зразумець тут нашую спрадвечную адсталасць, прыгадаю, што нават 200-тысячны славянскі народ лужычане, які жыве ў цэнтры высокаразвітай у культурных адносінах нямецкай нацыі, мае на роднай мове пераклады Біблії, псалмоў і іншых рэлігійных кніг.

Калі зыходзіць з прынцыпаў рэальнай, а не фармальнай суверэннасці Беларускай ССР і праваслаўнага царкоўнага права, згодна з якім праваслаўная царква кожнай нацыянальнай дзяржавы мае права на аўтаномію, пераход богаслужэння ў нашай рэспубліцы на беларускую мову з'яўляецца проста абавязковай умовай. Варта паконьчыць са шматвяковай заганнай практыкай, калі мову праваслаўнай царквы, яе друкаваных выданняў на Беларусі вызначалі дзесьці далёка за яе межамі высокія духоўныя асобы. Такія патрабаванні не раз высоўвалі ў даваенны час беларускія епіскапы — прыхільнікі аўтаномнасці і аўтакефальнасці ў справе рэлігіі, за што некаторым з іх давялося заплаціць сваім жыццём у час сталінскіх рэпрэсій. На пэўным этапе рух за аўтаномію падтрымлівалі нават афіцыйныя дзяржаўныя органы рэспублікі ў разліку на тое, што гэтым самым будзе нанесены ўдар моцнай і даволі папулярнай пад той час у краіне рускай праваслаўнай царкве на чале з маскоўскім патрыярхам Ціханам. Але такая падтрымка аказалася часовай, нядзейснай, у выніку беларускую мову не ўдалося ўвесці ў царкоўнае жыццё, як і ў іншыя сферы дзейнасці чалавека з прычыны сур'ёзных парушэнняў дэмакратыі ў рэспубліцы. Па гэтай прычыне нічога не атрымалася з ідэяй аўтакефальнасці праваслаўнай царквы на Беларусі і ўводам у богаслужэнне беларускай мовы і ў пасляваенныя гады. І цяпер, як у далёкі даваенны час, праваслаўная царква ў нашым краі з'яўляецца своеасаблівым сродкам моўнай асіміляцыі, размывання нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Традыцыйнаму ганьбаванню беларускай мовы ў дзейнасці праваслаўнай царквы на тэрыторыі суверэннай Беларусі павінен быць пакладзены канец.

Такія ж прэтэнзіі, як гаварылася вышэй, беларускі народ мае ўсе падставы прад'явіць і да каталіцкай царквы, якая вядзе сваю службу сярод беларускага каталіцкага насельніцтва, карыстаецца кананічнай літаратурай на польскай мове. А між іншым, Ватыкан усямерна садзейнічае ўжыванню ў гэтых мэтах мясцовых моў. Цяпер богаслужэнне ў каталіцкіх храмах розных краін вядзецца больш чым на ста мовах, і ці не таму такім папулярным з'яўляецца гэты від хрысціянства ў народаў. Трэба сказаць, што такому дэмакратычнаму прадпісенню вышэйшых улад каталіцкай царквы сям-там прыслухаліся і ў нас. Намеснік старшыні Саюза палякаў Беларусі Р. Кацынэль сцвярджае, што і кардынал польскай каталіцкай царквы Глемп, накіроўваючы ксяндзоў да нас, дае ім наказ такога зместу: «Будзеш з аднолькавай стараннасцю служыць вернікам, якія карыстаюцца польскай мовай, як і беларускай ці якой-небудзь іншай, якімі пастараешся авалодаць у адпаведнасці з патрэбай».

**Магчыма, такія паважлівыя дачыненні кардынала Глемпа да беларускай мовы ёсць вынік палітыкі самога Ватыкана, бо раней за польскай каталіцкай царквой падобнае не назіралася. Адносна ж пазіцыі Ватыкана па дадзеным пытанні можна меркаваць па тым, што яго прадстаўнік сказаў яшчэ ў 1988 годзе каталіцкаму святару айцу Яну Матусевічу: «Трэба, каб на Беларусі родная мова была чуваць у святынях не толькі ў адным Вішнеўскім касцёле, але і ў іншых. Варта і Вам. а. Ян, паследаваць гэтаму прыкладу». І а. Ян прыслухаўся да пачутай ім парады. Для многіх з нас такая з'ява здаецца і нязвыклай, і неверагоднай, бо не адпавядае ўсталяванаму стэрэатыпу поглядаў на дачыненні каталіцызму да беларускай культуры і мовы. Але ўсё ж трэба пагадзіцца і парадавацца такой моўнай з'яве, яна сям-там ужо мае месца ў рэальнасці каталіцкага богаслужэння.**

Што й казаць, у нас нейк вечна адбываюцца казусы, як толькі справа датычыць беларускай мовы. Ці ж не атрымліваецца казусу і са спробай увядзення яе ў сучаснае рэлігійнае жыццё рэспублікі? З раней выдадзенай навуковай і навукова-папулярнай літаратуры ўсе мы вынеслі такое ўяўленне, што да культуры, жыцця беларуса руская праваслаўная царква быццам бы стаяла і стаіць куды бліжэй за каталіцкую. Апошнюю парою называюць ледзь не ворагам беларускасці. А на практыцы — казус! Чаму? Бо Ватыкан, як вынікае з вышэй прыведзеных цытат, памяркоўна ставіцца да вядзення службы ў касцёлах Беларусі на роднай мове карэннага насельніцтва, падтрымлівае пачынанні па перакладзе Біблії і іншых рэлігійных кніг на беларускую мову, значна апярэджваючы ў гэтых пытаннях Маскоўскую патрыярхію. І пэўныя пазітыўныя зрухі ў каталіцкай царквы на Беларусі ўжо намеціліся. Прыхаджане даўно звыкліся, што ў касцёле Вішнева Валожынскага раёна ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі вядзе службу на беларускай мове. Заўважым, што на такі крок ён рызыкнуў пайсці пры самай сур'ёзнай варожасці некаторых суседніх касцёлаў. Гэты ж самы вішнеўскі ксёндз пачаў перакладаць з латыні, польскай мовы свяшчэнныя кнігі на беларускую мову. Ці не маем мы тут справу са Скарынам XX стагоддзя? Больш за дваццаць гадоў вядзецца праца, дазвол на якую атрыманы яшчэ ад папы Паўла VI. Ужо колькі гадоў таму назад у Рыме а. Уладзіслаў Чарняўскі выдаў на беларускай мове Катэхізм. У Рым для надрукавання адпраўлены літургія на ўвесь год, імшал. Перакладзена на беларускую мову болей за палову Біблії, выдаць якую мяркуецца ў бібліятэцы імя Ф. Скарыны, што ў Лондане. Хацелася б толькі, каб на ўсё гэта хапіла гадоў далёка не маладому вішнеўскаму ксяндзу.

Суцяшае, што ў гэтай важнай для адраджэння і прыжывання ў каталіцкім богаслужэнні беларускай мовы справе Уладзіслаў Чарняўскі мае надзейных паплечнікаў. Ужо колькі гадоў вядзе на ёй службу і ксёндз Уладас Пятрайціс у Мёрах, дарэчы, літовец па нацыянальнасці. Мову братняга народа ён засвоіў самастойна, прыехаўшы на Беларусь. У паасобныя дні вядзе службу на беларускай мове і настаяцель Нясвіжскага фарнага касцёла Рыгор Каласоўскі, якому ў 1989 годзе споўнілася восемдзесят гадоў.

Цеплынёй напаўняюць душы вернікаў беларускамоўныя малітвы, якія чытае ксёндз Уладзіслаў Завальнюк у Чырвоным касцёле Мінска. Свае адносіны да гэтай праблемы беларускага духоўнага адраджэння ён так разумее: «...глыбока ўпэўнены, што духоўны пастыр проста абавязаны размаўляць з людзьмі на іх роднай мове». Са сваёй паствай святар у залежнасці ад канкрэтных абставін вядзе богаслужэнне на польскай, рускай і беларускай мовах. Найбольш цяжкасцяў даводзіцца зведваць з апошняй, бо адсутнічаюць неабходныя для гэтага беларускія пісьмовыя тэксты. Першае выданне такіх тэкстаў ужо надрукавана ў Рызе, другое рыхтуецца ў Мінску.

Яскравай старонкай у летапіс змагання нашага народа за беларускую каталіцкую царкву ўвойдзе дзень 8 ліпеня 1990 года, калі ў Мінску адзначаўся юбілей Грунвальдскай бітвы і калі ў гонар гэтай падзеі тагачасны біскуп Тадэвуш Кандрусевіч упершыню ўсю Імшу адслужыў па-беларуску. У той жа дзень гэтага года на беларускай мове адпраўляў Імшу айцец Уладзіслаў Завальнюк. Для паўнаты ўяўленняў, наколькі паспела ўвайсці беларуская мова ў каталіцкае набажэнства, з прыемнасцю адзначу, што на ёй вядзе службу яшчэ і айцец Анатоль Гей.

Ёсць прыемныя звесткі, што Ватыкан згадзіўся перавесці ўсю беларускую парахвію на беларускую мову. Калі такое стане рэальнасцю, ці не назавём мы тады каталіцкую царкву на Беларусі нацыянальнай? Ці не пацягнуцца тады да яе асноўныя пласты нацыянальна свядомых вернікаў — беларусаў? Гістарычнай практыцы народаў вядомы шматлікія прыклады, калі людзі добраахвотна мянялі сваю канфесійную прыналежнасць і прымалі тую веру, якая найбольш адпавядала іх нацыянальным інтарэсам. Без ваганняў пайшоў бы такім шляхам і аўтар гэтых радкоў, бацькі якога былі праваслаўнымі, а самога яго агульнаадукацыйная школа, жыццё не прывучылі ў свой час да веры ў Бога.

Многіх нацыянальна свядомых беларусаў усур'ёз узрадавала, што ў дні святкавання 1000-годдзя хрышчэння Русі Ватыкан адважыўся на такое, што нам наўрад ці давядзецца калі-небудзь пачуць ад Маскоўскай патрыярхіі. Маю на ўвазе створаную і перададзеную ў беларускай праграме радыё Ватыкана на беларускай мове «Малітву за Беларускі Народ». Каб закончыць гаворку пра месца беларускай мовы ў практыцы каталіцкай царквы, прыгадаем, што на ёй выходзіць у Рыме часопіс «Веснік Беларускага Каталіцкага Душпастырства», рэгулярна вядзе перадачы Ватыканскае радыё.

Разам з тым вядомы і выпадкі (скажам, на Гродзеншчыне) зусім процілеглага характару, калі ксяндзоў, якія вялі пропаведзі ў беларускай мове, прымушалі пераходзіць на польскую. Там жа адкрыта па хатах хадзілі агітатары, угаворваючы беларусаў-католікаў лічыць сябе палякамі і патрабаваць адкрыцця школ для іх дзетак на польскай мове. Ад усяго гэтага патыхае той паланізацыяй, якую насаджалі гродзенцам у 20—30-я гады нашага стагоддзя.

У сённяшняй практыцы каталіцкай царквы на Беларусі ёсць водгаласы і сумна вядомых інтрыг антынацыянальнага характару на першым часе вызвалення нашага народа ад нямецка-фашысцкай акупацыі, калі ксяндзоў больш цікавілі не так канфесійныя пытанні, як размыванне этнічнай самасвядомасці сваіх прыхаджан. Яшчэ не паспелі адгрымець апошнія залпы Вялікай Айчыннай вайны, яшчэ не былі патушаны пажары на толькі што вызваленай ад ворага беларускай зямлі, а ўжо віленскі біскуп Мазур Ялжбыкоўскі шле сюды ксяндзоў, якія паланізуюць сваіх парафіян, заяўляючы, што тут няма аніякай Беларусі, а ёсць толькі Польшча, што ўсе беларускія католікі — гэта чыстыя палякі. Колькі ж можна выпрабоўваць на трываласць нацыянальную самасвядомасць беларускага народа? Калі ж ужо будзе апошні віток такой асіміляцыі беларусаў на яго роднай Бацькаўшчыне? Упэўнены, каб у нас, як у народаў Прыбалтыкі ці Закаўказзя, на належным узроўні знаходзілася нацыянальная самасвядомасць, біць у званы, звяртацца

(Працяг на стар. 14—15).

# РЭЛІГІЯ І МОВА

(Працяг. Пачатак на стар. 13).

ў адпаведныя дзяржаўныя, палітычна-грамадскія органы з просьбай забараніць паланізацыю не было б аніякіх падстаў. Мы самі адстаялі б сваю нацыянальную годнасць. Але ж вядома, што ад яе на сёння засталося ў выніку сур'ёзнейшых хібаў у рэгуляванні міжнацыянальнымі адносінамі на Беларусі на працягу ўсяго пасляваеннага перыяду. Народу патрэбна своечасова дапамагчы і добрай парадай, і канкрэтнымі практычнымі справамі.

**Ёсць усе падставы сцвярджаць, што паланізацыя беларускіх католікаў не толькі Гродзеншчыны, але і іншых раёнаў рэспублікі будзе і надалей пашырацца, бо ў нас, на жаль, усё ж вельмі мала святароў, якія могуць весці службу ў касцёлах на беларускай мове. Пераважная большасць прысланых апошнім часам з Польшчы ксяндзоў і двух слоў не ўмеюць звязаць па-беларуску. Не верыцца, што хтосьці з іх будзе ў правільным кірунку ўплываць на этнічную самасвядомасць беларусаў. Пашырэнне каталіцкай рэлігіі, як і ў папярэднія гады, ізноў будзе суправаджацца адыходам беларусаў ад сваёй нацыянальнасці, тым больш, што наш народ не можа пахваліцца, асабліва на сучасным этапе, здольнасцю ўмець супраціўляцца любым формам асіміляцыі.**

**Кожнага чалавека, заклапочанага сённяшнім гаротным лёсам нацыянальнага духоўнага жыцця, не можа не кранаць, што дзесьці далёка за мяжой беларускія святары лепш разумеюць нашыя нацыянальныя інтарэсы і з большай стараннасцю вучаць сваю паству паважаць іх, чым гэта робіцца ў нас дома, на Беларусі. З нагоды сёлетніх каляд кіраўнікі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў Беларусі цёплымі словамі прывіталі сваіх прыхаджан, але найбольш кранула душу шчырага беларуса, напэўна, сардэчнае каляднае архіпастырскае пасланне Ізяслава, мітрапаліта і першагерарха Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Нью-Йорку, у якім ёсць такія словы: «Наш Беларускі Народ моліцца за сваю рэлігійную, маральную і нацыянальную свабоду, каб свая Царква, мова і культура зноў закрасавалі, каб суседзі не пасягалі на нашы спрадвечныя землі з іх слаўнай гісторыяй, каб яны прызналі Богам дадзенае нам права на вольнае існаванне ў сям'і вольных народаў свету».**

Усё больш і часцей задумваючыся над прычынамі цяжкага стану беларускай мовы, я пачынаю бачыць ці не галоўны корань гэтай бяды ў тым, што жыццё майго народа стагоддзямі складвалася так, што яго роднае слова вельмі рэдка гучала ў культавых храмах. Пераважна не на яго мове гавораць тут і сёння. Адсюль зразумела, што такая мова не можа знаходзіць падтрымкі і павагі ні ў Бога, ні ў саміх вернікаў, бо ў гісторыі няма выпадкаў, каб Усявышні і паства не паважалі мовы, на якой вядзецца богаслужэнне. Абыякавасці, а ў горшым выпадку і вырачэнню нейкай часткі беларусаў праваслаўнай веры ад матчынага слова служыць і тое, што знаходзяцца з ліку праваслаўнага духавенства асобы, якія прынародна заяўляюць, што на беларускую мову нельга перакласці кнігі Свяшчэннага Пісання, што яе немагчыма выкарыстаць у час літургічнай службы з-за немілагучнасці. Каб хоць неяк апраўдацца перад народам за сваю маруднасць з пераходам да выдання беларускамоўнай рэлігійнай літаратуры, спасылаюцца на такі аргумент, што некалі для перакладу Біблii на рускую мову С.-Пецярбургская, Маскоўская, Кіеўская і Казанская духоўныя акадэміі аддалі некалькі дзесяткаў гадоў працы. Усё гэта добра пераклікаецца з цяперашнімі шырока вядомымі выдумкамі, што беларускую мову нельга ўводзіць у сферу розных тэхнічных навук. Так могуць гаварыць толькі людзі, якія не ведаюць яе ці проста варожа ставяцца да нашай духоўнай культуры. У такіх умовах вельмі важна не даць патухнуць свечкам у тых цэрквах і касцёлах, дзе эпізадычна ці стала гучыць беларускае слова. Не хочацца верыць, што народ, які некалі не паддаўся гвалтоўнай паланізацыі і русіфікацыі, не знойдзе цяпер у сабе сілы, каб змагчы супрацьстаяць усім формам асіміляцыі, захаваць сваю нацыянальную годнасць.

Не можа не радаваць, што пазітыўны паварот да беларускай мовы назіраецца і сярод евангельскіх хрысціян (баптыстаў) і хрысціян веры евангельскай (пяцідзесятнікаў), якіх, дарэчы, не так ужо і мала ў нас. Выходзіць, што і іншыя рэлігійныя плыні пачынаюць разумець значэнне нацыянальнага элементу ў жыцці людзей і з мэтай прыцягнення іх на свой бок умела выкарыстоўваюць і даны фактар.

Без усялякіх ваганняў пішу, што сёння найдалей за ўсіх да нашых надзённых нацыянальных патрэб стаіць самая блізкая, як прынята лічыць, беларусам і самая масавая ў рэспубліцы па колькасці вернікаў праваслаўная царква. Практычна яна робіць — і вельмі нясмела — яшчэ толькі першыя крокі, каб у нашым краі прыхаджане загаварылі з Богам на сваёй роднай мове. Створана і прыступіла да працы спецыяльная камісія ў складзе аўтарытэтных царкоўных дзеячаў і багасловаў, свецкіх вучоных па перакладзе на беларускую мову кніг Свяшчэннага Пісання. Але ўсё гэта вядзецца такімі марруднымі тэмпамі, што, здаецца, у сярэднявеччы адзін старанны манах пры цьмяным святле свечкі даваў за год куды больш перакладнога тэксту, чым могуць выканаць цяпер дзесяткі людзей, далучаныя да гэтай справы. Перакласці і выдаць Біблію і іншыя рэлігійныя кнігі на сучаснай беларускай мове — справа не з катэгорыі самых цяжкіх. Куды цяжэй будзе праваслаўнай царкве ўкараніць беларускую мову ў богаслужэнне. Ці не пойдзем мы і тут шляхам заганнай практыкі апеляваць да жадання людзей, забываючыся, што яны з-за сур'ёзных парушэнняў ленінскай нацыянальнай палітыкі амаль паглоўна дэнацыяналізаваны і не ў стане зрабіць правільнага выбару адносна свайго нацыянальна-культурнага развіцця? Здзіўляе, што да апошняга часу гэтай элементарнай з'явы не разумеюць ці не хочуць разумець самыя аўтарытэтныя асобы праваслаўнай і каталіцкай цэркваў на Беларусі. Калі 24 кастрычніка 1989 года, г. зн. у дзень адкрыцця першага мінскага фестывалю ў гонар святкавання 400-годдзя заснавання Патрыяршаства на Русі, Мітрапаліту Мінскаму і Гродзенскаму Філарэту было зададзена пытанне, чаму казанні ў кафедральным Саборы вядуцца не на беларускай мове, пачуўся адказ, што казанні павінны чытацца на той мове, на якой пажадае прыход. Не ведаю, як у іншых месцах, а на Беларусі ад моманту яе далучэння ў канцы XVIII стагоддзя да Расійскай імперыі кіраўнікі рускай праваслаўнай царквы ніколі не цікавіліся пажаданнямі мясцовага насельніцтва адносна мовы літургіі і казанняў. А вось цяпер, калі яно не па сваёй волі адарвана ад нацыянальнай культуры і мовы, калі ўсё гэта трэба неадкладна адраджаць, праваслаўныя іерархі апелююць да этнічна дэградаванай масы. Пры такім стаўленні да гэтага лёсавызначальнага пытання праваслаўная царква будзе садзейнічаць далейшай і ўжо, напэўна, канчатковай асіміляцыі беларускага народа, а не яго нацыянальна-духоўнаму адраджэнню.

Упэўнены, што такія рэферэндумы правамерна праводзіць толькі з высоканацыянальна самасвядомымі людзьмі, а не з тымі, хто доўгі час жыў у адрыве ад сваіх гістарычных каранёў, духоўных традыцый. Такіх людзей трэба спачатку навучыць жыць паводле нацыянальных норм, а затым высвятляць адносіны да іх. З вялікімі агаворкамі пагаджаюся: калі б мова і сапраўды была ўсяго толькі сродкам зносін царквы з прыхаджанамі, дык тады можна было б даць ім права выбіраць, на якой мове павінна весціся богаслужэнне. Але ж мова, акрамя сродку зносін людзей, гэта яшчэ і вырашальны фактар культурнага развіцця нацыі. Таму пры выбары мовы богаслужэння больш за ўсё і трэба кіравацца такім фактарам, а не пажаданнямі паствы, якія часта могуць змяняцца ў залежнасці ад канкрэтных абставін, і, нарэшце, не тым, чаго могуць патрабаваць ад праваслаўнай царквы на Беларусі вышэйшыя канфесійныя ўлады, што знаходзяцца ў Маскве.

**Нельга пагадзіцца з думкай мітрапаліта Філарэта таксама і ў тым, што «мову пропаведзі ў храме выбірае сам свяшчэннік» (інтэрв'ю газеце «Звязда», 28 лютага 1990 г.). Не сумняваюся, што абсалютная большасць свяшчэннікаў выбера тую мову, на якой яны атрымалі духоўную адукацыю, г. зн. царкоўнаславянскую і рускую. Не сакрэт, што ў нас нямала свяшчэннікаў небеларускай нацыянальнасці. Пры такой неспрыяльнай сітуацыі вельмі нерэальна спадзявацца, што пры выбары мовы богаслужэння самімі свяшчэннікамі мы зробім штосьці карыснае для таго, каб садзейнічаць укараненню беларускага элемента ў канфесійную справу нашага краю, хаця ёсць і прыемныя выключэнні.**

**У варунках жыцця на Беларусі патрэбна зыходзіць не з таго, разумее ці не разумее яе карэннае насельніцтва царкоўнаславянскую мову, а які эфект для нацыянальна-культурнага адраджэння, паглыблення этнічнай самасвядомасці беларусаў дасць узвядзенне іх роднай мовы ў ранг літургічнай. Таму зараз абавязковае ўжыванне царкоўнаславянскай мовы ў літургіі тлумачыць толькі тым, што гэтая мова зразумелая беларусам, рускім і ўкраінцам, падаецца зусім непераканаўчым. Балазе, не так ставяцца да гэтага пытання ў дзевяці парафіях Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ), што ў Вялікай Брытані. Там папераменна вядуць набажэнства на беларускай і царкоўнаславянскай мовах.**

Не цураюцца беларускай мовы ў час правядзення літургіі і ў праваслаўнай царкве Жыровіцкай Божай Маці, якую пабудавалі нашыя супляменнікі ў 60-я гады ў амерыканскім горадзе Кліўлендзе. Усіх нашых землякоў, што ўдзельнічалі тут летась у верасні ў правядзенні XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, найбольш за ўсё ўразілі наступныя словы з паўтарагадзіннай беларускамоўнай службы — малітвы за Беларусь: «Ойча Нябесны, дабраслаў люд беларускі як у краю, так і далёка па-за яго межамі... Не карай нас бяспамяцтвам і не дай забыцца святой мовы нашай беларускай, гісторыі і традыцый нашых, а дай сілы і шчырасці з адданаю любоўю і пашанаю прымнажаць спрадвечнае і высакароднае, што стварылі да нас продкі нашы...»

Карэнныя, незалежныя ад часу інтарэсы беларускай нацыі, якую абслугоўвае тая ці іншая царква, павінны быць заўжды на першым месцы, што толькі і дапаможа ёй забяспечыць сабе папулярнасць у народзе, сцвердзіць сябе як форму праяўлення беларускай нацыянальнай культуры. За рэдкім выключэннем, на Беларусі проста нелагічна мець польскую каталіцкую ці рускую праваслаўную цэрквы. Першая і другая павінны быць паводле зместу і формы беларускімі праваслаўнай і каталіцкай, мець у сваім краі ўласныя вышэйшыя царкоўныя органы і весці справу так, каб вернікі гэтых дзвюх хрысціянскіх канфесій лічылі сябе прадстаўнікамі аднаго і таго ж народа. Атрыманне беларускай праваслаўнай і каталіцкай канфесіямі незалежнасці ад Маскоўскай патрыярхіі, Ватыкана і вярхоўных улад каталіцкай царквы Польшчы не павінна разглядацца як нейкая крамола. Як і ў іншых сферах жыцця, і ў рэлігійным нішто не можа заставацца вечным і нязменным.

Мы ўсё яшчэ познімся і не заўважаем ці не хочам заўважаць, што ўжо даўно надышоў час праваслаўнай і каталіцкай цэрквам нашага краю сплачваць даўгі беларускаму народу за шматвяковае ганьбаванне яго духоўных традыцый, разрыхленне яго этнічнай самасвядомасці. І нічым так добра нельга іх сплаціць, як увядзеннем беларускай мовы ў богаслужэнне. Сённяшнія кіраўнікі гэтых дзвюх канфесій нясуць прамую адказнасць за садзеянае іх папярэднікамі.

Пазітыўныя зрухі ў нацыянальнай самасвядомасці карэннага насельніцтва рэспублікі, якія, на шчасце, даводзіцца назіраць апошнім часам, даюць усе падставы сцвярджаць, што з шырокім, паўсюдным увядзеннем беларускай мовы ў практыку праваслаўнай і каталіцкай цэркваў нам, несумненна, удасца ўзняць прэстыжнасць роднага слова ў абсалютнай большасці беларускага народа. Ён карэнным чынам зменіць свае адносіны да рэлігіі, калі ўбачыць у ёй вялікую сілу па выхаванні ў людзей павагі да духоўных традыцый, найважнейшы фактар нацыянальна-культурнага адраджэння.

Вышэй выкладзены самы аптымальны магчымы варыянт моўнай палітыкі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Але жыццё ў многіх народаў, як паказвае шматгадовы вопыт і ў беларусаў, не заўсёды развіваецца паводле самых аптымальных варыянтаў. Не выключана, што і сёння духоўныя ўлады будуць шукаць усялякія шляхі, каб вызваліць сябе ад абавязкаў уводзіць у богаслужэнне беларускую мову, тым больш, што на такое іх падштурхоўваюць і практычныя дзеянні ў сферы моўнай палітыкі пэўных дзяржаўных і грамадска-палітычных органаў і сродкаў масавай інфармацыі, ажыццяўляемая ў сферы народнай адукацыі работа. З-за іх пасіўнасці і абыякавасці зрухі да лепшага ў лёсе беларускай мовы пакуль што не наступілі. Аднак не будзем ад гэтага ўпадаць у роспач у пытаннях мовы набажэнства, бо ў нацыянальна свядомых пластоў беларускай нацыі, асабліва творчай, мастацкай інтэлігенцыі, ёсць яшчэ адно выйсце: паспрабаваць вярнуць да жыцця былую беларускую нацыянальную уніяцкую царкву. Ужо ёсць звесткі, што сям-там у рэспубліцы пачалі ўзнікаць, прычым па волі маладых грамадзян, уніяцкія рэлігійныя суполкі, абшчыны. Але як толькі паспелі яны заявіць аб сабе, адразу адчулі непрыязь з боку некаторых афіцыйных друкаваных органаў, а таксама высокіх асоб праваслаўнага духавенства. «Як так, — загаварылі яны,— мінула паўтары сотні гадоў ад моманту ропуску уніі, а тут знаходзяцца прыхільнікі грэка-каталіцкай веры!» Прычыну такой неардынарнай з'явы тлумачаць перш-наперш падкопамі беларускіх уніятаў замежжа, забываючыся на тое, што на самой нашай зямлі ідзе няўмольны працэс вяртання гістарычнай памяці, абуджаецца ў людзей павага да духоўнай спадчыны, з чаго ніяк нельга выключыць і уніяцтва. Прыгадваюцца не заўсёды пераканаўча даказаныя нібыта злачынныя ўчынкі апошняга ў час фашысцкай акупацыі, за што, вядома, аніякай адказнасці не нясуць сённяшнія прыхільнікі грэка-каталіцкай царквы. Цяпер не час успамінаць, што хто з нас рабіў паўстагоддзя таму назад, бо так мы ніколі не прыйдзем да нацыянальнай згоды. Калі тыя, каго ў нас дзесяцігоддзямі лічылі за «здраднікаў», сёння цягнуцца да вырашэння нашых найважнейшых агульнанацыянальных задач, мы не маем права чыніць ім перашкоды для такіх высакародных здзяйсненняў. Ці ж можна не радавацца, што амаль першымі прапанавалі беларусам, якія жывуць на сваёй Бацькаўшчыне, дапамогу пасля чарнобыльскай катастрофы іх супляменніку з ліку служыцеляў і уніяцкага замежнага кліру? У пытаннях рэлігіі трэба быць як мага больш талерантнымі, да чаго яшчэ ў сярэднявеччы заклікалі свой народ яго лепшыя сыны. Вось погляд Льва Сапегі: «... мір стане няўстойлівым, калі мы будзем ставіць людзям перашкоды ў веравызнанні».

**Не сумняваюся, калі ў нас з аднаго боку па-сапраўднаму распачнецца рух за вяртанне не па віне народа згубленых духоўных традыцый, за адраджэнне гістарычнай памяці, а з другога—калі масы, зняверыўшыся ў рэальнасці хуткага надыходу чагосьці лепшага ў іх жыцці, кінуцца шукаць шчасце ў Бога, ідэі уніяцтва могуць шырока запанаваць у Беларускім краі. Дык, можа, не чакаць, пакуль уніяцкі рух знізу, цераз пераадоленне ўсякіх перашкод набудзе шырокія прасцягі, а ўжо цяпер пайсці насустрач яму, пачаць на дабрачынныя сродкі ўзводзіць храмы, у якіх ізноў загучыць нашая родная мова? Нам жа так не стае яе ў жыцці, хаця дзяржава фармальна і спрабуе штосьці рабіць для выратавання беларускай мовы, ды, на вялікі жаль, беспаспяхова. Няхай бы і уніяцкая царква ўнесла свой уклад у гэтую справу, практычна даказаўшы, што ў жыцці яна не такая, як яе паказвалі і паказваюць ужо на працягу паўтара стагоддзя. Яшчэ і ў літаратуры выпуску 1989 года можна было прачытаць, што сучаснае уніяцтва з'яўляецца «пануючай канфесіяй толькі беларускіх нацыяналістычных антысавецкіх эмігранцкіх арганізацый, якія дзейнічаюць на задворках заходняга свету». Аўтары падобных публікацый, свядома абмінаючы тое, што вернікам гэтай царквы, у тым ліку і яе кіраўнікам удалося зрабіць па захаванні і развіцці беларускіх нацыянальных пачаткаў, затрыманні працэсаў размывання этнічнай самасвядомасці нашых супляменнікаў, працуючы ў больш складаных умовах, чым у нас на Беларусі.**

**Давайце ўсе, уключаючы і дзяржаўныя структуры, будзем гранічна ўважлівымі да спробаў адраджэння уніяцкай царквы. Гэта чысцейшай вады фікцыя, што наша дзяржава не павінна цікавіцца рэлігійнымі пытаннямі. Існуе ж, да прыкладу, да сённяшняга дня правіла: пакуль грамаду вернікаў не зарэгіструюць ажно ў Савеце па справах рэлігіі ў Маскве, яны не маюць права праводзіць богаслужэнне. Значыцца, дзяржаўныя органы не стаяць убаку ад рэгулявання канфесійным жыццём. Лагічна, каб іх цікавіла і мова набажэнства на падведамнай тэрыторыі, што якраз дапасоўвалася б да патрабаванняў Закона аб мовах у Беларускай ССР. Уніяцкая ж царква ў нашым краі не ўяўляе для свайго богаслужэння іншай мовы, чым беларуская. Негуманна, а то і проста амаральна ва ўмовах дэмакратызацыі сучаснага грамадства глушыць, незалежна па якіх прычынах, як гэта летась назіралася ў Віцебску, парасткі той рэлігійнай плыні, што мае такую шматгадовую і нікольки незаплямленую гісторыю на беларускай зямлі. Адыход ад разумнага прынцыпу талерантнасці непазбежна выкліча, як ужо не раз здаралася ў нас, нікому не патрэбнае напружанне не рэлігійнай глебе.**

Гістарычная практыка дае даволі багата прыкладаў, што касмапалітычная канцэпцыя царквы ніколі не падтрымлівалася свабодалюбівымі, незалежнымі народамі, якія і ў пытаннях рэлігіі імкнуліся да суверэннасці. Агульнавядома, што і цяпер абсалютная большасць цывілізаваных краін прытрымліваецца менавіта такога погляду на рэлігійнае пытанне. Нацыянальная царква для іх такая ж звычайная з'ява, як нацыянальная культура ці нацыянальная асвета. Нам трэба нарэшце ва ўсіх пытаннях жыцця адвыкнуць ад абавязковага, немінучага падпарадкавання каму-небудзь зверху і навучыцца ўсе праблемы вырашаць

самім. Быў жа ў нашай гісторыі час, калі ў паасобныя перыяды Вялікага княства Літоўскага мы мелі незалежную ад Маскоўскай дзяржавы і Маскоўскай мітраполіі сваю дзяржаўную праваслаўную царкву. Гэтага не ўдавалася зрабіць толькі ў дачыненні да каталіцкай царквы на Беларусі з-за паступовага ўсталявання залежнасці ВКЛ ад Польскага каралеўства, што назіралася і ў канфесійным жыцці. Гвалтам і подкупам навязваючы праваслаўнаму насельніцтву Вялікага княства Літоўскага каталіцкую рэлігію, улады Польскага каралеўства тым не менш павінны былі прызнаваць, што толькі ў адносінах да жыхароў апошняга яна з'яўляецца афіцыйнай, дзяржаўнай і, значыцца, павінна служыць іх інтарэсам. Каталіцкая царква стала функцыяніраваць на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага ў якасці дзяржаўнай толькі пасля таго, як у адпаведнасці з Люблінскай уніяй 1569 года яно аб'ядналася з Польскім каралеўствам на канфедэратыўнай аснове ў адну дзяржаву — Рэч Паспалітую. Ад таго часу на тэрыторыі ВКЛ існавалі дзве дзяржаўныя царквы— праваслаўная і каталіцкая, а калі першая практычна стала уніяцкай, дык заканамерна такі ж статус перайшоў і да яе. Праўда, статус дзяржаўнасці уніяцкай царквы ў многім саступае каталіцкай.

Заканамерны рух нашага народа да поўнай палітычнай незалежнасці сучаснай Беларускай дзяржавы абумоўлівае і поўную незалежнасць яе праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, якія ўсе свае намаганні павінны сканцэнтраваць над рэалізацыяй нацыянальна - культурнага адраджэння беларускага народа, што немагчыма без пераводу на беларускую мову ўсіх сфер яго жыццядзейнасці, у тым ліку і рэлігійнай.



З серыі «Помнікі дойлідства Беларусі».

Мастак У. БАСАЛЫГА.

Цяпер, калі беларуская нацыя набывае рэальную дзяржаўную суверэннасць і атрымлівае ўсе правы ладзіць рэлігійнае жыццё незалежна ад Масквы, Рыма і Варшавы, гэта зусім не азначае, што яно павінна знаходзіцца ў нейкіх формах канфрантацыі з імі. Самастойнасць і незалежнасць для вернікаў Беларусі — гэта перш за ўсё тыя спрыяльныя фактары, якія дазваляюць пры вырашэнні ўсіх пытанняў канфесійнай палітыкі кіравацца толькі выключна ўнутранымі патрэбнасцямі адраджэння і развіцця беларускай нацыі. Беларускія праваслаўная і каталіцкая цэрквы не павінны ігнараваць усё лепшае, што можа зыходзіць з Масквы, Рыма і Варшавы, ці адмаўляцца ад удзелу ў сумесных дзеяннях, накіраваных на служэнне вышэйшым ідэалам чалавецтва. У нашы дні без цяснейшага супрацоўніцтва не можа развівацца ніводная сфера дзейнасці чалавека, але такое супрацоўніцтва не павінна супярэчыць інтарэсам нацыянальнага развіцця.

За сваю гісторыю Беларусь шмат напакутавалася ад рэлігійных разладаў, якія ўчыняліся па волі яе суседзяў. Людзі адной веры, як і людзі розных канфесій, павінны жыць мірна адзін з адным. А вось прадаўжаць далей практыку, што да нас на Беларусь шлюць рэлігійных кіраўнікоў паводле распараджэнняў Маскоўскай патрыярхіі ці каталіцкай царквы Польшчы, значыцца, пагаджацца з тым, што супярэчыць прынцыпам рэальнага суверэнітэту беларускай нацыі. Без яе ўдзелу Архірэйскі Сабор у Маскве ўстанавіў у 1989 годзе для праваслаўнай царквы Беларусі парадак царкоўнага кіравання ў форме экзархата, што ў перакладзе на нашую мову азначае «намесніцтва». Не ведаю, як у каго, а ў мяне гэта параджае асацыяцыі з тым далёка недэмакратычным часам у гісторыі Усходняй Рымскай імперыі, з якой рэгулярна накіроўваліся намеснікі ў залежныя ад яе заморскія правінцыі. Экзархам Беларусі, як вядома, Масква прызначыла Мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага Філарэта. Разумней было б, каб царкоўная ўлада кожнай суверэннай дзяржавы, а такой паступова становіцца ў нашы дні і Беларусь, сама незалежна вырашала, каму са служыцеляў праваслаўнай ці каталіцкай рэлігій займаць вышэйшыя царкоўныя пасады і, вядома ж, даравацъ іх трэба тым асобам, якія найлепш ведаюць мясцовыя ўмовы, культуру і мову беларускага народа, гатовыя аддаць усе свае сілы для яго Духоўнага Адраджэння. Не бяруся сцвярджаць за іншых, а сам я лічу, што сур'ёзным намерам зрабіць Беларусь суверэннай дзяржавай ніяк не адпавядае практыка, калі яе праваслаўную і каталіцкую цэрквы па-ранейшаму будуць узначальваць асобы небеларускай нацыянальнасці, якія не валодаюць нашай мовай і таму не здольныя развіваць духоўны патэнцыял нашага краю.

**Слова ў любым богаслужэнні—гэта найважнейшы фактар зносін вернікаў з Усявышнім. Зробім жа так, каб беларусы зносіліся з ім з дапамогай свайго роднага слова, што дапаможа яму стаць бессмяротным, вечным. Нас не зразумеюць ні сучаснікі, ні нашчадкі, калі, праводзячы паўсюдна беларусізацыю, мы пакінем рускую і польскую мовы ў праваслаўнай і каталіцкай цэрквах. Беларусізацыя літургіі такая ж умова нашага нацыянальна-культурнага адраджэння, як і ўкараненне беларускага элементу ва ўсе іншыя сферы грамадскага жыцця Бацькаўшчыны. Таму давайце не спазняцца і першнаперш пачынаць планамерна ўводзіць беларускую мову ў навучальна-выхаваўчы працэс духоўных устаноў, дзе рыхтуюць служыцеляў кліру. Дарэчы, на пачатку XX стагоддзя беларуская мова выкарыстоўвалася ў гэтых мэтах. Можна спадзявацца, што гэтыя нацыянальныя традыцыі беларускага народа з поспехам працягне ўзноўленая ў Свята-Успенскім Жыровіцкім манастыры з 1 верасня 1989 года Мінская духоўная семінарыя. Адзін з яе першых класаў пачаў працаваць на беларускай мове. Яна з'яўляецца абавязковым прадметам навучання для ўсіх класаў. Пайсці на большае немагчыма з-за адсутнасці беларускамоўных духоўных настаўнікаў. Як прызнае рэктар семінарыі архімандрыт Канстанцін, ён і сам «не ведае класічнай беларускай мовы» («Настаўніцкая газета», 6.02.91 г.). Патрэбна вітаць, што і журнал «Минские епархальные ведомости» з ліпеня 1989 года пачаў эпізадычна змяшчаць пропаведзі на беларускай мове. Толькі шкада, што спадкаемцам гэтай нацыянальна прагрэсіўнай ідэі не стаў «Вестник Белорусского экзархата», які пачаў выходзіць з 1990 года. Зусім марнай справай было б паспрабаваць знайсці ва ўсіх яго нумарах за леташні год хоць адну пропаведзь на беларускай мове. Рэдакцыя абмежавалася толькі друкаваннем на ёй матэрыялаў, не звязаных са службай у царкве.**

Накшталт іншых сфер грамадскага жыцця і канфесійную мы не зробім здольнай прыносіць карысць справе нацыянальна - культурнага адраджэння беларускага народа, пакуль не будуць сфармаваны тут кадры, якія глыбока ўсведамляюць усю трагічнасць яго лёсу і гатовыя цалкам прысвяціць сябе выратаванню нацыі. Здаецца, некаторымі ўжо пачынае правільна разумецца роля суб'ектыўнага фактара ў ажыццяўленні гэтай важнай і высакароднай акцыі. Вось, да прыкладу, меркаванне сакратара Мінскага епархіяльнага ўпраўлення, настаяцеля храма Марыі Магдаліны протаірэя айца Івана Харашэвіча: «...царкве нацыянальныя кадры патрэбны не менш, чым, скажам, школе. Свяшчэннаслужыцель абавязаны добра ведаць псіхалогію, культуру, мову сваіх прыхаджан. Інакш які ён духоўны пастыр?»

Сёй-той у нас выказваецца за двухмоўе ў рэлігійным жыцці Беларусі. З гэтым можна пагадзіцца толькі як з часовай, пераходнай з'явай на шляху да поўнага беларускага аднамоўя. Эталонам тут павінна быць моўная практыка ў дзейнасці праваслаўнай і каталіцкай цэркваў суседніх нам Расіі і Польшчы. Вырашэнне гэтай праблемы — справа не з лёгкіх, як нялёгка нам будзе з укараненнем беларускай мовы і ў іншыя сферы грамадскага жыцця. Шчырая, адчувальная дапамога наўрад ці прыйдзе ад праваслаўнай царквы Расіі і польскай каталіцкай, бо на працягу ўсёй гісторыі яны звычайна былі праціўнікамі беларускай мовы ў сваёй дзейнасці на тэрыторыі нашага краю. Дый як ім не быць такім праціўнікам, калі як першая, так і другая галоўнае месца ў рэлігійнай практыцы адводзіла асіміляцыі блізкароднаснага народа, што адпавядала спрадвечным інтарэсам афіцыйных улад гэтых дзвюх дзяржаў.

Трэба ведаць, што ў наш час інтэнсіўнай інтэрнацыяналізацыі ўсіх сфер жыццядзейнасці чалавека этнагенацыд, ад каго б ён ні зыходзіў, у тым ліку і ад царквы, куды больш небяспечны, чым у перыяд, калі беларусаў апалячвалі і русіфікавалі адміністрацыя і духавенства Польскай Кароны і Расійскай імперыі. Тое, што ім удавалася зрабіць па асіміляцыі беларусаў за сто гадоў, сёння можа быць дасягнута і за дзесяць гадоў. Таму ўсялякая дзейнасць каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, якая хоць у мізэрнай ступені можа служыць размыванню нацыянальнай самасвядомасці карэннага насельніцтва Беларусі, павінна насцярожваць не толькі грамадскасць, але і дзяржаву, якая нясе прамую адказнасць за захаванне этнакультурнага патэнцыялу той нацыі, якую яна ўвасабляе ў сваёй афіцыйнай назве. Адасобленасць царквы ад дзяржавы ніколі не азначала і не азначае зараз, што яна павінна быць абыякавай да той палітыкі, якую першая вядзе сярод прыхаджан, якую мову яна прапагандуе, якую этнічную прыналежнасць прышчапляе ім. Раздвоенасці ў такіх пытаннях не можа быць паміж дзяржавай і царквой. Дый увогуле, калі ўсур'ёз унікнуць у сутнасць справы, у гісторыі любых краін планеты яшчэ ніколі не назіралася такога, каб царква дзейнічала незалежна ад палітыкі той ці іншай дзяржавы, ці каб апошняя не ўмешвалася, калі гэта абумоўліваецца пэўнымі абставінамі, у канфесійныя справы. Менавіта пасля прыняцця ў нас дэкрэта аб аддзяленні царквы ад дзяржавы найбольш непрыкрытым было такое ўмяшанне. Думаю, ніхто не стане аспрэчваць, што закрыццё культавых будынкаў, масавыя рэпрэсіі ў дачыненні да свяшчэннікаў учыняліся ні кім іншым, як дзяржаўнымі органамі. Дык чаму ж сёння яны не могуць сесці за «круглы стол» са свяшчэннаслужыцелямі кліру, каб сумесна абмеркаваць, як зрабіць праваслаўную і каталіцкую цэрквы ў нас асяродкам беларускай нацыянальнай культуры, пераўтварыць у дзейсны сродак этнічнай кансалідацыі карэннага насельніцтва, адраджэння яго нацыянальнай самасвядомасці, над разбурэннем якой не адно стагоддзе так «плённа» папрацавалі і царкоўнікі?

Увядзенне беларускай мовы ў набажэнства — гэта толькі першы, хаця і надзвычай важны крок на шляху да нацыянальнай царквы. Не будзем забывацца, што на адной і той жа старажытнаяўрэйскай мове прапаведваў Ісус Хрыстос і ўзводзілі на яго паклёп розныя фарысеі і кніжнікі. І з дапамогай беларускай мовы можна падрываць этнічны патэнцыял яе носьбітаў. Таму, каб праваслаўная і каталіцкая цэрквы ў нашым краі сапраўды сталі нацыянальнымі, яны павінны, акрамя ўжывання беларускай мовы, выкарыстоўваць і іншыя культурныя каштоўнасці, улічваць найважнейшыя гістарычныя падзеі беларускай нацыі. Ці ж гэта нармальная з'ява, калі і па сёння ў нас няма, акрамя Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, ніводнага храма, прысвечанага памяці слынных людзей Беларусі ці самым выдатным з'явам яе жыцця? Ужо ў бліжэйшы час патрэбна вырашыць, каго са сваіх знакамітых дзеячаў царкве Беларусі патрэбна далучыць да ліку святых. Тых пятнаццаці ўраджэнцаў нашай зямлі, якіх узвяла ў такі высокі духоўны ранг руская праваслаўная царква, крайне мала. Зараз, калі ў адпаведнасці з рашэннем Архірэйскага сабора Рускай праваслаўнай царквы створаны Сінод Беларускай праваслаўнай царквы, прычым, яшчэ і надзелены вышэйшай заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладай, з'явілася рэальная магчымасць гэтую канфесію непараўнальна больш дастасаваць да беларускай нацыянальнай культуры. І дастасаваць у такой ступені, каб поўнасцю адпавядаць сваёй сучаснай назве — **Беларуская праваслаўная царква,** якую ў пачатку 1990 года надаў ёй Архірэйскі сабор Рускай праваслаўнай царквы. На вялікі жаль, у нас ужо вельмі даўно бытуе заганная традыцыя ставіць на чале афіцыйнай назвы той ці іншай установы слова «Беларуская», нікольні не патрабуючы ад яе быць на практыцы такой. Хацелася б, каб праваслаўная царква, набыўшы назву «Беларуская», рашуча парвала з такой ганебнай традыцыяй. Новай, дастасаванай да мясцовых умоў нашай Бацькаўшчыны назвы даўно ўжо счакалася і каталіцкая царква на Беларусі.

**Ад многіх чуў і сам усё яшчэ прытрымліваюся думкі, якая гэта вялікая трагедыя, што хрысціянская рэлігія падзяліла адзіны беларускі народ на дзве канфесійныя часткі, між якімі не заўсёды ў мінулым панавалі мір і ўзаемапавага. А іншым разам падумаеш, што ў якога-небудзь цывілізаванага народа фактар дзвюх канфесій мог бы адыграць, асабліва на крутых пераломах гісторыі, нават станоўчую ролю, бо тое, што не пад сілу для яго духоўнага сталення зрабіць адной з іх, магла б дапамагчы ёй другая. У нас жа гаворка зусім не пра сталенне. Толькі сляпы ці варожа настроены да нас чалавек не заўважае, што як самабытная нацыя гінуць беларусы і праваслаўнага і каталіцкага веравызнання. Дык чаму ж у такіх цяжкіх умовах і сапраўды ім, г. зн. праваслаўнай і каталіцкай цэрквам, замест таго, каб і надалей працягваць расхістванне этнічнай самасвядомасці беларусаў, не паспрабаваць аб'яднаць свае сілы і сродкі для выратавання і духоўнага адраджэння блізкага рускім і палякам славянскага народа?**

Практыка суіснавання на Беларусі дзвюх хрысціянскіх канфесій не павінна ўвайсці ў тое рэчышча, якое з пэўных палітычных мэт так абгрунтаваў заўзяты езуіт сярэднявечча Пётр Скарга: «...рознасць у веры нараджае нязгоду паміж людзьмі... розныя веры падзяляюць каралеўства і губяць яго». Не, не згодзен, бо людзі, як разумныя істоты, якраз і надзелены Богам здольнасцю свядома рэгуляваць свае ўзаемаадносіны, утаймоўваць эмоцыі, калі яны супярэчаць чалавечай логіцы. Няма такога пытання, якога б нельга было вырашыць з пазіцый розуму.

З упарадкаваннем нашага рэлігійнага жыцця надалей няма як марудзіць. Пара нарэшце і ў гэтай справе беларусам глянуць на сябе, як на суб'ект гісторыі, а не быць толькі яе аб'ектам. Бог нас лепш зразумее, калі да Яго мы будзем звяртацца на роднай, а не на пазычаных мовах, калі да Усявышняга будуць весці нас абраныя намі пастыры ўсіх рангаў, а не прызначаныя Масквой, Варшавай ці Рымам. Суперцэнтралізацыя рэлігійнага жыцця ідзе не ад Бога, а прыдумана самімі кіраўнікамі царквы, за спінамі якіх заўжды стаялі і стаяць пэўныя дзяржаўныя ўлады са сваімі інтарэсамі, якія часта не адпавядаюць пажаданням радавых вернікаў.

# На Глыбоччыне, у Празароках,

## адзначана 130-годдзе з дня нараджэння Ігната БУЙНІЦКАГА

...У аўтобусе, па дарозе на Глыбокае, чыталі свежыя газеты. На прыездзе, у гасцініцы, найперш імкнуліся да тэлевізара. Была субота, 24 жніўня. Масква святкавала перамогу над сіламі рэакцыі і развітвалася з ахвярамі абароны Белага дома. Кацілася інфармацыйная лавіна, усплывалі ўсё новыя абставіны путчу. Беларускі парламент сабраўся на нечарговую сесію. Свет узбунтаваўся, жыццё выходзіла з каляін. Было і радасна, і роспачна, і трывожна...

Дзядзька Буйніцкі, ці ж да вас цяпер?

Між тым на радзіме былога каморніка, уладальніка заліхвацкіх вусоў, праўдзівага беларускага інтэлігента і пачынальніка нацыянальнага тэатра, у мясцінах прыгажосці незвычайнай ладзілася свята рэспубліканскага рангу. Гэта значыць такое, якое плануецца і рыхтуецца загадзя, з адпаведным прадстаўніцтвам, з удзелам вялікай колькасці творчых калектываў. І, прызнаюся, было ніякавата ўсведамляць, што, калі б, не дай Бог, маскоўскія падзеі павярнуліся інакш, свята ўсё роўна адбылося. Нас жа заклікалі захоўваць спакой і стабільнасць, нават забяспечылі добрым надвор'ем.

Але ўсё абышлося, і тое, што магло б стаць «пірам пад час чумы», зрабілася тым, чым і задумвалася, — проста святам, якое дазваляе вылузнуцца з калатнечы будняў, хоць бы на пару дзён.

Дзякуй вам, дзядзька Буйніцкі!

Гаспадары расстараліся, каб зноў пацвердзіць гасціннасць гэтай зямлі. Было шмат музыкі, спеваў, скокаў. Гучалі словы пра Буйніцкага, пра значэнне справы яго жыцця для нас, сённяшніх. Як звычайна у падобных выпадках, штосьці было шчырым і свежым, штосьці — фармальным, казённым. Святкуем, як умеем. Як, зрэшты, і жывём.





Галоўнае — на свята прыйшлі людзі, шмат людзей. Не будзем перабольшваць іх веданне гісторыі беларускага тэатра, але, на шчасце, далёка не ўсё тлумачыцца і наяўнасцю ў ларках піва і сякіх-такіх ласункаў. Дарэчы, хто сказаў, што вуліцы, якой нададзена імя Буйніцкага, непатрэбны асфальт, няхай сабе і пакладзены да свята?

Калі слушна тое, што мы асуджаны на суверэнітэт, дык, можа, і на адраджэнне мы таксама асуджаны?

Што скажаце, дзядзька Буйніцкі?..

**А.Г.**

Фота У.Л. КРУКА.



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

### Ігнат Буйніцкі

**На нашай сцэне беларускай**
**Пакуль трагедыя і фарс,**
**І твар народу з вулак вузкіх**
**Сафіт не высветліў анфас.**

**Яшчэ правал у першай дзеі,**
**Яшчэ не ўсё, як у людзей...**
**Ды спеліцца ў душы надзея**
**На новы час, на новы дзень.**

**І за заслонай я чакаю,**
**І сэрца слухаю біццё,**
**Як дух свабоды залунае**
**Са сцэны проста у жыццё.**





Марцін КОЎЗКІ

### Доля праўды

У Барысаве выдрукаваны Лігачоў. Яшчэ адной беларускай кнігай менш. «Ты не прав, Борисов»,— скажу ўслед Ягору.

●

Памёрла лектар Ніна Мікалаеўна. Да 1989 года значылася як Леніна Мікалаеўна. Мяняла імя і ў 1957 годзе, была Сталіна Мікалаеўна. Вось і ўсё жыццё, такая біяграфія.

●

— Чаму ў цябе кватэра маленькая? — спыталі птушку. —Дзяцей мала.— А чаму дзяцей мала? — Кватэра невялікая.

●

Адносна пытанняў «праклятых» не будзем душою крывіць. Мы ведаем, **«хто** вінаваты?» і нават **«што** рабіць?». Вось каб яшчэ які дзівак падказаў нам, **як.**

●

«Паходжанне», радок анкеты, маўляў, як вас песціў клас... Не ўкладаліся паэты у схемы, што накрэсліў Маркс: непралетарскія, паганскія — ці шляхцюкі, ці слугі панскія... Даруйце, Колас і Купала, што вам «кандыцый» не хапала.

●

Як складваецца грамадская думка? Усе сядзяць на адной лаве, прыходзіць нехта і садзіцца на пустую насупраць — аб ім грамадства і думае.

●

Літаратурная радня — стрыечная пляменніца Ільфа і Пятрова.

●

Не можаш у двух словах сказаць, пра што твой раман, майстар? Бачыш, як цяжка быць лаканічным!

●

З астралогіі: зорка мусіць быць акружана — ці то небам, ці то лужынай.

●

Разбураем помнікі, ахоўваемыя дзяржавай, ці ж яны яшчэ і не помнікі разбуранай дзяржаве?

●

Не Бог быў гадамі на нашых сцягах, і ўсё ж такі к храму знайшлі мы дарогу. Адкуль толькі той бальшавіцкі размах, з якім павярнулі мы к Богу?

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар—33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕУСКАЯ—33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ—33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётр ВАСІЛЕУСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА —33-22-04, аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАУ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК—33-24-62; бухгалтэрыя—26-86-40.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12